# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 21 (100) Нядзеля 25 травена 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Амэрыканскія дзяржаўныя мужы аб сусьветным палажэньні

З нагоды дня амэрыканскіх збройных сілаў і — некалькі дзён пазьней — з нагоды 150-годняга існаваньня ваеннай акадэміі ў Вэст-Пойнт вядучыя мужы амэрыканскай дзяржавы ў мінулым тыдні мелі цэлы рад прамоваў, у якіх на першым месцы былі пастаўленыя справы замежнае палітыкі. Ці гэта расходзілася пра мовы прэзыдэнта Трумана у дзень амэрыканскай арміі й перад кадэтамі ваеннай акадэміі, вывады міністра замежных справаў Дына Эчысона, шэфа задзіночанага штабу ўсіх амэрыканскіх збройных сілаў генэрала Омара Брэдлея, або іншых высокіх дзяржаўных мужоў і прадстаўнікоў арміі, — аснаўным пунктам усіх прамоваў была нязломная воля Амэрыкі захаваць сусьветны мір і сьвядомасьць, што толькі палітыка сілы зьяўляецца найлепшай гарантыяй паўстрымаць Савецкі Саюз ад агрэсыі.

За найважнейшыя фактары ў імкненьнях запэўніць бясьпечнасьць заходняга сьвету было ўсюды вызнанае адзінства й поўнае супрацоўніцтва ўсіх вольных народаў. Паасобныя прамоўцы паказалі на факт, што хаця трэба было шмат рызыкаваць і пасьвяціць вялікія ахвяры, аднак былі дасягнутыя вялікія поступы ў вапошнія гады й палепшаньне пазыцыі заходняга сьвету супраць магчымага агрэсара. Гэтыя факты даводзілі, што амэрыканская замежная палітыка йшла правільным шляхам і што вольныя народы дзякуючы свайму адзінству й узроўні збраеньняў стаяць на найлепшай дарозе захаваць сваю вольнасьць без жахлівых ахвяраў новай сусьветнай вайны.

Міністар замежных справаў Эчысон падчыркнуў, што адзінае толькі насільле ня можа разьвязаць праблемы. «Але магутнасьць, якую мы разбудоўваем», — гаварыў ён — «ёсьць неабходна патрэбнай, каб перашкодзіць нашаму праціўніку спрабаваць пры помачы гвалту разьвязаць гэтую праблему ў ягоную карысьць.» Ня досыць часта паўтараць, што праграма, якая вызнаецца Амэрыкай, павінна перашкодзіць выбуху новай вайны. Калі ў галінах, дзе пануе палітычнае напружаньне, такая фактычна моцная будзе выстаўленая сіла, што кажная агрэсыя будзе абазначаць вялікую рызыку, тады вайна будзе выключанай. Тры аснаўныя мамэнты зьяўляюцца для амэрыканскай замежнай палітыкі вялікага вырашальнага значэньня: па першае, сьвядомасьць, што ніякая камбінацыя сілы савецкага блёку й савецкія амбіцыі не спаткаюцца з належным супрацівам, калі яны ня будуць уключаць Задзіночаных Штатаў; па другое, калі палітыка ня будзе мець наўвеце толькі нацыянальных інтарэсаў; і па трэйцяе, калі інсьпіраваныя гэтай палітыкай праграмы будуць выходзіць за рамы чыста ваеннай магутнасьці.

У надзеі на тое, што Задзіночаным Штатам і іхным саюзьнікам удасца быць гаспадаром палажэньня ў войстрай небясьпецы, якія заўсёды загражаюць з боку Савецкага Саюзу міру й усяму цывілізаванаму сьвету, успомніў прэзыдэнт Труман у сваей прамове ў ваеннай акадэміі аб этычных сілах, што зьвязваюць між сабой вольныя народы. Прэзыдэнт падчыркнуў канечнасьць актыўна працаваць для стварэньня такіх перадумоваў у сьвеце, якія служылі-б вольнасьці и справядлівасьці. Не зьяўляецца дзіўным, што саветы прабуюць прыняць гвалтоўныя меры супраць адзінства Эўропы — пры гэтым паклікаўся прэзыдэнт Труман на плян Шумана й на эўрапэйскую абаронную супольнасьць. Гэта таму, што задзіночаная Эўропа можа зьнішчыць імкненьні Крамля праглынуць адну эўрапейскую краіну за другой.

Вялікая ўвага прамоваў і вывадаў амэрыканскіх вядучых дзяржаўных мужоў была прысьвечаная падзеям у Карэі. Прамоўцы прыпомнілі на тое, што задзіночанасьць вольных народаў, іхная мілітарная сіла й іхная становкасьць не сьцярпець ніякай ваеннай агрэсыі былі найлепш паказаныя ў Карэі. Посьпехі Захаду ў гэтай вайне ня могуць аднак быць дасягнутымі шляхам нецярплівасьці або слабасьці. Задзіночаныя Нацыі заўсёды гатовыя зьліквідаваць карэйскі канфлікт мірным шляхам, аднак ніколі ня згодзяцца на прымусовую рэпатрыяцыю камуністычных ваеннапалонных, якой так настойліва дамагаюцца камуністыя.

Мэты амэрыканскай замежнай палітыкі, якія былі нарысаваныя ў гэтых прамовах, былі таксама падтрыманыя й з рэспубліканскага боку. Мерадайныя палітыкі гэтай партыі, былы дараднік ураду ЗША Джон Фостэр Далес, і прадстаўнік рэспубліканскай фракцыі ў сэнаце Брыджэс, згадзіліся зь цяперашняй амэрыканскай замежнай палітыкай. Так, прыкладам, заявіў Далес, што незалежна ад вынікаў лістападавых прэзыдэнцкіх перавыбараў, замежная палітыка Амэрыкі астаецца тэй самай. У гэтай палітыцы праяўляецца пераканаўне амэрыканскага народу, што ягоная собская бясьпечнасьць неразьдзельна зьвязаная зь бясьпечнасьцю ўсіх іншых вольных народаў. Брыджэс выступіў энэргічна супраць закідаў, што быццам рэспубліканская партыя зьяўляецца ізаляцыяністычнай. У дэбатах над справай замежнай помачы асьветчылі як дэмакраты, гэтак і рэспубліканцы сваю прынцыповую згоду на нясеньне цяжару замежнай помачы. Супярэчнасьці заключаліся толькі ў вышыні гэтай помачы.




Беларуская пасьляваенная прэса на эміграцыі.

## Наш юбілей

Сяньня «Бацькаўшчына» адзначае свой юбілей — выпуск сотага нумару газэты.

У нармальных умовах гэта была-б зусім звычайная падзея, якая зусім не заслугоўвала-б на тую ўвагу, якую мы свайму сотаму нумару прысьвячаем. І гэта тым больш, што хаця «Бацькаўшчына» сьвяткуе сяньня свой соты юбілей, ад выхаду першага ейнага нумару, які паявіўся 31 кастрычніка 1947 году, мінула ня год ці два гады часу, але амаль пяць гадоў. Цяжкія ўмовы нашага эміграцыйнага жыцьця, асабліва матарыяльныя нястачы, былі галоўнымі прычынамі, што газэта выходзіла зь вялікімі перарывамі, а яшчэ год таму назад рэдакцыя лічылася з магчымасьцю ейнае поўнае ліквідацыі.

Тым ня менш, аднак, ня гледзячы на ўсе гэтыя засьцярогі, якія ў не аднаго могуць зрадзіцца, соты нумар «Бацькаўшчыны» — гэта ўсё-ж такі ня штодзенны звычайны выпадак у нашым выгнанскім абяздоленым жыцьці. Ужо толькі той факт, што пасярод беларускіх пасьляваенных газэтаў на эміграцыі «Бацькаўшчына» першая дасягнула свайго сотага нумару, заслугоўвае на ўвагу.

Першай беларускай пасьляваеннай друкаванай газэтай на эміграцыі былі, як ведама, «Беларускія Навіны» ў Парыжы, першы нумар якіх паявіўся яшчэ перад Калядамі 1945 году. Хаця газэта паяўлялася нерэгулярна, а пазьней і зусім перастала выходзіць, адыграла яна тады не малую ролю сярод беларускае эміграцыі. Гэтая роля галоўным чынам заключалася ў навязаньні так патрэбных тады кантактаў сярод рэсьцярушанай і стэрарызаванай загрозай прымусовай рэпатрыяцыі нашай эміграцыі.

У Нямеччыне, дзе сканцэнтравалася тады аснаўная маса беларусаў, не магла паўстаць да восені 1947 году беларуская друкаваная прэса, бо заходняальянцкія акупацыйныя ўлады ня выдавалі на яе дазволаў у сувязі з доўгім нявызнаваньнем імі беларусаў за асобную нацыянальную групу. Таму беларускія асяродзьдзі ў Нямеччыне змушаныя былі тады агранічвацца прымітыўнымі ратататарнымі часапісамі, некаторыя зь якіх стаялі аднак на высокай узроўні й выконвалі не малую нацыянальную работу.

Адзначаючы сяньня выхад у сьвет сотага нумару «Бацькаўшчыны», нельга не зьвярнуць увагі на ролю прэсы наагул і асабліва ў эміграцыйных умовах жыцьця.

Прэса перадусім мае дзьве вялізарныя функцыі ў жыцьці народу й грамадзянства.

Па першае, прэса інфармуе аб найважнейшых падзеях сьвету й аб жыцьці дадзенага народу, адыгрываючы такім чынам важную ролю камунікатыўную. Але, апрача інфармаваньня, яна аднача сна й выхоўвае грамадзянства, прывіваючы яму тыя ці іншыя палітычныя, нацыянальныя, грамадзкія, сацыяльныя й маральныя ідэі. Гэтая апошняя функцыя прэсы асабліва важная, а дзеля гэтага ўсе цывілізаваныя народы прэсу цэняць вельмі высока, як адзін з найважнейшых дзейнікаў, які фармуе ідэйны шкялет народаў і грамадзянстваў.

У таталітарных камуністычных краінах прэса, як і ўсё іншае, зьяўляецца скаванай адзінай камуністычнай дактрынай, сілком накінутай зьверху на зьняволеныя народныя масы. Стоячы на варце пануючай камуністычнай клікі, гэная прэса ня можа выяўляць думак і імкненьняў народу. Ейная роля з аднаго боку — вельмі абмежаваная, а з другога — антынародная. Затое прэса ўсіх краінаў вольнага дэмакратычнага сьвету ёсьць вольная ў найшырэйшым значэньні гэтага слова, а вольнасьць гэтая зьяўляецца загарантаванай дзяржаўнымі законамі аб свабодзе слова, друку й сумленьня. Гэтая прэса свабодна інфармуе чытачоў аб падзеях і выпадках з розных ідэалягічных пунктаў гледжаньня, дае магчымасьць зарыентавацца чытачу ў розных паглядах і становішчах свайго собскага й чужога грамадзянства й вырабіць на гэтай падставе свой собскі свабодны пункт гледжаньня. Вось чаму роля вольнай прэсы ў дэмакратычным сьвеце ўзапраўды вялізарная.

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Вітаюць „Бацькаушчыну"

**«БАЦЬКАУШЧЫНЕ»**
**У дзень ейнага сьвята.**

**Із дробных пупышкаў,**
**із парастоў малых,**
**што голкамі пранізваюць суглінак,**
**зноў сонца рупіцца**
**ўскрасіць і распыліць**
**вясну па ўзгорках і далінах.**

**І хай яшчэ красой**
**вясновай ня кураць**
**ні мокрыя лагі, ні йгруш агнішчы, —**
**скрозь цешыцца усё,**
**вясновага таўра ня зьнішчыць.**
**ня сьцерці з далячынь, а радасьці**

**Ці-ж не таксама тут,**
**за сотняй вех і меж,**
**што між Радзімаю і намі сяньня сталі,**
**ты з дробных, простых слоў**
**пацеху тчэш,**
**аж верыцца, што лёс ня без прагалін,**

**што нейкую-ж вясну**
**калісь засьпеем мы**
**нарэшце, раз яшчэ, на роднай Беларусі,**
**што і цябе, і нас**
**жыцьцю не заламіць...**
**Аб гэтым шчыра сяньня памалюся.**

Н. АРСЕНЬЕВА

*

**Рэдакцыі газэты «БАЦЬКАЎШЧЫНА»**
**Мюнхен, Нямеччына**

**Урад Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне шчыра вітае «БАЦЬКАЎШЧЫНУ» зь яе сотым юбілейным нумарам і складае пажаданьні далейшага росту як у якасьці, так і ў разьмеры, ды сталага бесьперабойнага выхаду для дабра ўсёй беларускай эміграцыі й беларускага народу.**

**За Ўрад**
**Аб'яднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне**
**Старшыня Др. Вітаўт Тумаш**

## *Рэдакцыі газэты «Бацькаўшчына»*

**Пяць гадоў існаваньня й сто нумароў часапісу «БАЦЬКАЎШЧЫНА», — гэта на ўмовы нашага эміграцыйнага жыцьця вельмі паважнае дасягненьне, якое сьветчыць аб станаўкой волі і ахвярнай, няспыннай працавітасьці Рэдакцыі й Выдавецтва.**

**Урад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва чуецца ў вабавязку адзначыць, што за сваіх першых сто нумароў «БАЦЬКАЎШЧЫНА» аддала не малую прыслугу й беларускай культуры й навуцы, прысьвячаючы часта сваё бачыны літаратурным творам нашых пісьменьнікаў і зацемкам і навуковым працам з галіны беларусаведы.**

**Дзеля гэтага Ўрад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва шле свае прывітаньні для Рэдакцыі й Выдавецтва «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» з нагоды сотага нумару часапісу й складае шчырыя пажаданьні далейшага доўгага служэньня як беларускай нацыянальнай справе, так і беларускай культуры на эміграцыі.**

**З шчыраю пашанаю,**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

| Н. Кушаль | Япіскап Васіль |
| --- | --- |
| Сакратар | Старшыня |

**Нью-Ёрк, 15 травеня 1952.**

## *Газэце «Бацькаўшчына»*

**У дзень юбілею — выхаду сотнага (100) нумару газэты «Бацькаўшчына» Галоўная Управа Саюзу Беларускіх Журналістых на Чужыне ад імя ўсіх сваіх сяброў перасылае Рэдактару і супрацоўнікам газэты «Бацькаўшчына» свае найлепшыя пажаданьні посьпеху ў далейшай працы і спадзяецца, што на вольнай ад маскоўскага бальшавізму Бацькаўшчыне ўбачыць юбілянтку-газэту штодзеньнікам.**

**Ад імя ўсяе сям'і вольных беларускіх журналістых на выгнаньні Галоўная Управа СБЖ разам з прывітаньнямі засылае Рэдакцыі «Бацькаўшчына» свае зычэньні далейшае нязломнае працы ў барацьбе з усімі ворагамі беларускага народу і ўсяго вольнага людзтва — маскоўскім бальшавізмам. Мы пэўныя, што «Бацькаўшчына» ня зыйдзе з традыцыйнага шляху вольнае беларускае прэсы — нашага вызвальнага змаганьня і заўсёды будзе на варце дабра нашага народу і Краю, заўсёды дасьць належны адпор ворагам беларушчыны — яўным і сукрытым, сьведамым і нясьведамым, пад якімі-б шыльдамі агентураў яны ня выступалі.**

**У юбілейны год ВОЛЄНАЕ БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ Й ГАЗЭТЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» мы ўпэўнена разам з Рэдакцыяй — юбілянткай кажам:**

**ЖЫВЕ СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА І ЯЕ ПРАЦАЎНІКІ!**

**БУДЗЕ ДА СКОНУ ВЯКОЎ ЖЫЦЬ І ВЫЗВАЛЕНАЯ АД МАСКОЎСКАГА-БАЛЬШАВІЦКАГА ЯРМА ВОЛЬНАЯ, НЕЗАЛЕЖНАЯ І НЕПАДЗЕЛЬНАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА — БЕЛАРУСЬ!**

**М. Панькоў, Старшыня Г. У. С. Б. Ж.**
**Ч. Ханяўка, Сакратар.**
**Бруклін, 15. 5. 1952.**

**Рэдакцыі газэты «БАЦЬКАУШЧЫНА»**

**Ад імя беларускіх вайскоўцаў, згуртаваных у Задзіночаньні Беларускіх Камбатантаў і Вэтэранаў на Чужыне, вітаю газэту «Бацькаўшчына» зь ейным юбілеем — выхадам у сьвет сотага нумару газэты.**

**Беларускія вайскоўцы, якія арганізуюцца на чужыне, каб, калі прыйдзе на гэта час, збройна змагацца за вызваленьне Беларусі, бачаць у газэце «Бацькаўшчына» дзейнік, які, непахісна стоячы ў вабароне незалежнасьці нашае Радзімы, прычыняецца да ўзгадаваньня новых кадраў змагароў за вызваленьне Бацькаўшчыны.**

**Старшыня Галоўнае Управы З. Б. К. і В. на Чужыне:**
**Ф. Кушаль,** Гэн. Брыгады.

**Рэдакцыі Газэты «БАЦЬКАУШЧЫНА»**
**Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар!**

**З нагоды выхаду сотага нумару газэты «Бацькаўшчына», Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў З. Г. А. перасылае Вам і ўсім Вашым супрацоўнікам свае найшчырэйшыя прывітаньні.**

**Зь вялікай прыемнасьцяй трэба сьцьвердзіць, што «Бацькаўшчына» на працягу так доўгага часу верна служыць сьвятой ідэі незалежнасьці Беларусі, шырака прапагуючы яе, як сярод свае эміграцыі, так і сярод чужынцаў. «Бацькаўшчына» — гэта запраўды газэта, якая мае найбольшае прызнаньне ў беларускім грамадзтве на эміграцыі.**

**Дык жадаем Вам і надалей як найлепшае ўдачы ў працы, а «Бацькаўшчыне» і ейным чытачом — хуткага павароту на нашую запраўдную любую Бацькаўшчыну — Беларусь!**

**Галоўная Управа Б. А. З. А. у З. Г. А.**

# Аб прэсе ў Савецкай Беларусі

Вольная і незалежная прэса, сьведамая сваіх нацыянальных і грамадзкіх абавязкаў — вялікая сіла сучаснага грамадзка-палітычнага жыцьця. Гэта ведаў і Напалеон, калі дакладна характарызуючы прэсу сказаў: «Прэса гэта шостая дзяржава». Запраўды, гэта дзяржава ў дзяржаве і сяньня мы можам найлепей пераканацца ў гэтым на прыкладах амэрыканскае прэсы.

Галоўным і нязьменным заданьнем прэсы есьць дакладная, праўдзівая і сыстэматычная інфармацыя аб падзеях палітычнага, грамадзкага і культурнага жыцьця ў першаю чаргу сваіго народу, а затым і ўсяго сьвету. Праўдзівае адбіцьце, дакладны малюнак жыцьця як свае краіны, гэтак і сусьвету ўва ўсіх яго разгалінненьнях і многабаковасьці. Дапамога чытачу разабрацца ў значэньні адбываючыхся падзеяў і вырабіць на іх свой пагляд. Выявіць і сфармаваць грамадзкую думку, быць арганізатарам грамадзка-палітычнага жыцьця, выявіцелем і абаронцам жаданьняў ды зацікаўленьняў народу, паказьнікам ягонага жыцьця і барацьбы, асягненьняў і памылак. Вось заданьні і шлях кожнага друкаванага радку, а ў першую чаргу заданьні газэты.

Сяньня мы абмінем разгляд беларускае эміграцыйнае прэсы, а возьмем толькі г. зв «беларускую» прэсу ў БССР. Кажу беларускую ў чужаслове, бо яна запраўды і есьць для нас чужая, бо робіцца па загаду Масквы ды і мова ў ей ня нашая, не беларуская, а маскоўска-бальшавіцкі жаргон, зроблены па загаду той жа Масквы, каб наблізіць яе да «общепонятного языка», на якім нясьлі нашаму народу прымус і галоту, а краю эканамічнае вынішчэньне, што працягваецца рабіць і сяньня, толькі із зьмененаю шыльдаю.

Даволі нават павярхоўнага і эпізадычнага знаёмства з гэтай «беларускай» прэсай БССР, каб пераканацца, што яна мае зусім іншыя функцыі і заданьні. Друкаванае слова ў Беларускай ССР ёсьць зброяй духовага паняволеньня і вынішчэньня нашага народу, адным і, магчыма галоўным, сродкам барацьбы з нацыянальна-дзяржаўнымі ідэаламі нашага народу. Варожы, сілай накінуты чужакамі нашаму народу маскоўска-бальшавіцкі рэжым паставіў і прэсу на Беларусі на службу маскоўскім, а не беларускім інтарэсам, цалком узалежніў яе маскоўска-бальшавіцкім дырэктывам.

Сучасны друк у БССР — зброя маскоўска-бальшавіцкай прапаганды. Гэта суцэльная пропаведзь чужое і варожае беларускаму народу ідэі жаргонам, які названы беларускім. І прызначэньне гэтае прэсы — сталае і нязьменнае — пашыраць на Беларусі ў зьбліжанай да нацыянальнае формы «ідэёвую» атруту маскоўскага бальшавізму. Вось таму прэса ў падсавецкай Беларусі не зьяўляецца прэсаю ні беларускаю, ні беларускага народу, бо ня ёсьць паказьнікам народных думак і імкненьняў.

Там няма і быць ня можа легальнай вольнай і незалежнай беларускай прэсы. Сяньня, праўдзівае, нефальшаванае беларускае слова, як выказьнік думак і абароны нацыянальных ідэалаў, магчымы толькі ў нелегальных беларускіх партызанцкіх выданьнях, або за межамі бацькаўшчыны, на чужыне. Кон паклаў на нашых эмігрантаў абавязак бараніць сувэрэнныя правы нашага народу і апрычонасьць нашага краю, апавядаць сьвету праўду аб жыцьці на Беларусі пад жудасным маскоўска-бальшавіцкім панаваньнем.

Масква спрытна выкарыстоўвае ўсе сродкі і спосабы прапаганды, а насамперш прэсу, як падпарадкаваную ёй непасрэдна, гэтак і прэсу іншых народаў і краінаў. Маскоўская прапаганда — гэта пляновае, сыстэматычнае ўплываньне на псыхіку людзей праз ня толькі прэсу, але праз школу, кіно, радыё, мастацтва, літаратуру і нават падпарадкаваную ёй рэлігію. Падкрэсьлівую, яўную і сукрытую. У выпрацоўцы ды пашырэньні бальшавіцкае ідэалёгіі, у ператапленьні лічбовых паняволеных народаў у «совецкі народ», прапаганда гэта мае вырашальнае значэньне і адно з першых месцаў, пасьля фізычнага прымусу МВД-НКВД-ГПУ.

Спынемся дакладней на разглядзе друку ў БССР. На сяньня ў БССР выходзе 530 рэспубліканскіх, абласных, мястовых, раённых ды фабрычных газэтаў і 48 розных часапісаў. У даны момант мы ня маем дакладных лічбаў (падамо гэта ў адным з наступных артыкулаў) аб колькасьці выданьняў беларуска-маскоўскім жаргонам, а таксама ня ведаем і іхнага накладу. Адно можам сьцьвердзіць, што лік выданьняў навет на жаргоне стала паменшваецца, а ўзрастае лік выданьняў на мове «Леніна», г. ё. на старой мове прымусу. Тэндэнцыя маскалізацыі прэсы ў БССР стала мацнее пачынаючы ад зьнішчэньня «нацдэмаў». На сяньня газэты на «общепонятным» выдаюцца ўжо ня толькі ў местах ды вайсковых злучэньнях, але і ў «укрупнёных калгасах». Прызначаньне гэтых выданьняў зусім яснае — хутчэйшая, ударная маскалізацыя Беларусаў. Да таго на Беларусі пашыраецца абавязкавы кантынгэнт і г. зв. «цэнтральных» выданьняў, г. ё. выданьняў з Масквы і Ленінграду непасрэдна. Гэта пацьвярджвае і тое, што заграніцаю, напр. у ЗША і Англіі, дзе кажны можа выпісываць усякае друкаванае слова, а ў тым ліку і прэсу БССР, немагчыма дзеля поглядаў і меркаваньняў Масквы выпісаць ніводнага літаратурнага беларуска-жаргоннага часапісу з Менску, апрача «Звязды» (жаргоннае) і «Советской Белоруссии». Думаем, што тут камэнтары й довады лішнія, каб бачыць мэты тае-ж Масквы.

Макоўска-бальшавіцкая прэса на Беларусі працуе зусім адменнымі мэтадамі (як і ўся агулам бальшавіцкая прэса), іншымі, чым прэса вольных народаў. Таму й закранем крыху гэтыя спэцыфічныя мэтады савецкіх журналістых па здабываньню нутраной і вонкавай інфармацыі, спосабаў яе прэпарацыі і фальшаваньня, бо далёка ня ўсім, нават майстром журналістыкі захаду, яны ведамыя.

Усе выданьні ў БССР вельмі падобныя адзін да аднаго, стандартныя. Возьмем, для прыкладу «Савецкі селянін», які вельмі а вельмі мала адрозьніваецца ад «Слонімскага шляху» ці то ад «Палескае праўды». Хіба што меншым памерам, іншым шрыфтам і мінімальнай дозай інфармацыі з месцаў, з жыцьця ў калгасах Слонімшчыны, прозьвішчамі супрацоўнікаў, рэдактара і друкарні. Рэшта — тажсамасьць. Шэра, казённа, зьбіта, прымітыўна-бальшавіцка.

Выгляд амаль усіх «беларускіх» газэтаў у БССР аднальковы. У рэспубліканскіх і абласных газэтах, як і ў бальшыні мясцовых, матар'ял раскладзены пераважна наступна:

**1 бачына:** 2 першыя гранкі — перадавіца на нейкую тэму з нутраногa, партыйнага ці гаспадарскага жыцьця. Найчасьцей гэта перадрук або модуляцыі перадавіцаў «Правды» ці «Известий». Перадавіца заўсёды бяз подпісу, значыцца, яна выказвае пагляды рэдакцыі.

Тэма, зьмест і літаратурная апрацоўка перадавіцаў ува ўсіх выданьнях, пачынаючы ад «Звязды» і «Советской Белорусии» да раённых газэтаў, скажам у вёскі Сінякі амаль аднальковыя. Па бачынах гэтых газэт, не паглядзеўшы на дату выхаду, можна беспамылкова падаць пару году. Вось праклыды. Аб рэмонце трактароў пачынаюць стала пісаць у канцы лістападу. У студзені, даканчваючы піск і крыкі аб здачы хлеба дзяржаве, расьпісваюцца аб агранамічных паўчэньнях калгасьнікаў. Калі ж прачытаеце паведамленьні аб ачышчэньні насеньня — значыць падыходзе вясна і сяўба, аб якой яшчэ прагучаць усе вушы. Аб набліжаньні жніва скажуць вам шматлікія дапіскі зь месцаў.

Для прэсы БССР, як і агулам для ўсяе прэсы СССР, характэрнай адзнакай можа быць «кампанейшчына», аднагалосьсе ў розных варыянтах і рознай модуляцыі «акцыйнасьць». Калі загадваецца нейкая палітычная ці гаспадарчая акцыя, дык аб ёй напішуць ня толькі ўсе бяз вынятку вялікія і малыя газэты, але нават і, здавалася-б паважныя навуковыя часапісы фаховыя, якія абсалютна ня маюць ніякага адношаньня да ўзьнятага гвалту і тарараму. Прыкладам, «выбары ў саветы». Тады ў газэтах і часапісах гэтаму прысьвячаюцца — перадавіцы й фэльетоны, дапіскі з месц і нават вершы. Нататкі аб кандыдатах, дапіскі аб «новых асягненьнях у чэсьць выбараў», аб спаборніцтвах і г. д., і г. д. І ўсё гэта заканчываецца зьбрыдлай ужо ўсім і кажнаму славай вырадку грузінскага народу Джугашвілі. Так аб гэтым зазвоняць у сваіх «творах» нават літаратурна-мастацкія часапісы.

Пісаць гэткія артыкулы зусім проста і лёгка. Для гэткіх справаў існуе пэўны шаблён. Аўтару ня трэба выкладаць сваіх думак і поглядаў (калі хоча быць зьмешчаным у газэце і не жадае канчыць сваё жыцьцё на Калыме, здабываючы золата для зьзяньня сталінскага сонца і падбіцьця яшчэ вольных народаў сьвету). Так, гэта і непатрэбна, а галоўнае небясьпечна... Даволі працытаваць нейкую галімацьцю Леніна-Сталіна, выкласьці зьмест адпаведнае пастановы партыі або ўраду, адлюстраваць праверанымі 2—3 дадатнымі «фактамі» і абавязкава падаць адмоўныя (інакш МВД працы забракне). У вялікшых здарэньнях падхалімска салодка падзякаваць «бацьку». І ўсё, артыкул гатовы, надрукаваны будзе і парадковы ганарар будзе выплачаны.

Маладыя, яшчэ неспрактыкаваныя «журналістыя» — выпускнікі розных КІЖаў, ужываюць іншага спосабу, пэўнейшага і надзейнага. У архіўным камплекце газэтаў адшукаюць адпаведную дапіску ці артыкул на гэткую-ж тэму і... перапішуць амаль даслоўна, паднавіўшы колькімі сьвежымі «фактамі» або «лічбовымі дадзенымі». Шукаць у гэткіх артыкулах новых думак, разважаньняў, цікавых, праўдзівых «фактаў», веды жыцьця — няма рацыі. Паўтараецца даслоўна тое-самае, што пісалася ўжо ня раз і раней.

Праглядаючы савецкія газэты ў біблятэках Амэрыкі ня раз думаеш, што гэта з мінулага ці пазамінулага году. Нічога там няма. Нібы жыцьцё спынілася й пайшло па зачарованаму колу, або выводжаным навукова цыклям. Параўнаўшы газэты за 5 год, там ня знойдзеш ніякай разьніцы...

Раённыя газэты перадавіцаў пераважна ня маюць. Іх заступаюць перадрукі з «цэнтральных, рэспубліканскіх ці то абласных» газэтаў.

І яшчэ адна характэрнасьць для «беларускіх» газэтаў. Там вельмі а вельмі рэдка сустрэнем «перадавіцы» на міжнародныя тэмы, а калі і зьмешчаная, дык ня гледзячы на канец артыкулу можаце быць упэўненыя — гэта перадрук з «Правды» або «Известий». Уласныя артыкулы на вонкава-палітычныя тэмы, ня гледзячы на тое, што БССР дазволілі арганізаваць нат міністэрства вонкавых спраў, як і на тое, што на чале яго стаіць маскаль — стаўленік Масквы — Кісялёў і маецца нат прадстаўнік у ЗН, **забароненыя.** Агулам, уся «беларуская» прэса ў БССР грунтуецца на перадруках.

Рэшта 1 бачыны й **2 бачына** звычайна аж рабеюць ад розных рапартаў, лістоў, паведамленьняў, падзякаў і ўслаўленьняў «вялікаму вождю». Пішуць і друкуюць іх з розных нагодаў і без нагоды. Часта-густа пад такімі дапіскамі стаіць зазначэньне, што яны абгавораны й прыняты на сходах сотняў і тысячаў «верна-падданых». Фармальна гэта сапраўды гэтак і бывае, але таксама нікому сяньня ня сакрэт, што фактычна гэта толькі фальшаваньне запраўднае думкі людзей, асабліва людзей нашага народу, якія адвеку ведамыя як індывідуалістыя.

Мы дакладна ведаем, як фабрыкуюцца гэтыя «довады совецкага патрыятызму» і асабліва на нашай бацькаўшчыне. У свой час мы падалі да ведама і пазнаёмілі грамадзкасьць з мэтадамі, якімі на савецкай газэтнай кухні гатуюць стравы чытачом. Апрача агіды й абурэньня мы да ўсяго гэтага нічога іншага выявіць ня можам. «Лісты вождю» пішуцца па даручэньню і загаду розных камітэтаў партыі, дзе і ўкладаецца зьмест ліста. Пасьля гэтага журналістаму даручаецца прарабіць гэткія лісты на сходах фабрыкі і калгасаў. Сагнаныя маюць права і абавязак толькі падняць руку, бо супраць ніхто не адважыцца выступіць, каб ня быць у найлепшым выпадку высланым у концы.

Гэтак фальсыфікуюцца лісты й рапарты «ўдзячнага беларускага народу», якіх заўсёды дастаткова ў друку. Ясна, што гэтыя лісты й рапарты ані ў найменшай меры ня выказываюць ні жаданьняў, ні настрояў, ні думак пад'ярэмленых маскоўскім бальшавізмам падсавецкіх Беларусаў. За «дакумэнтамі савецкага патрыятызму» ідзе усялякі афіцыйны матар'ял. Новыя законы, пастановы, прамовы бальшавіцкіх галавароў, сьпісы нагароджаных ордэнамі мэдалямі і пад. Усё гэта абавязкава і забясьпечваецца газэтам агентурай ТАСС, або БЕЛТА. Далей ідуць паведамленьні з «трудавога фронту». Гэта — кароткія весткі аб выкананьні «плянаў і графікаў» у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, соцыялістычных забавязаньняў работнікаў і сялян-калгасьнікаў ды інфармацыі аб нутраным жыцьці БССР. Падаецца ўсё гэта ў хвалебна-прапагандовых тонах. І вось у гэтых вестках, нават не спрактыкаваны чытач яскрава бачыць тэндэнцыю фальсыфікацыі, прамаўчываньня пякучых патрэбаў штодзеннага жыцьця пад'ярэмленага народ загладжваньне ўсёй недарэчнасьці і шкоднасьці накінутага Беларусам чужога і варожага ладу.

Рэшту 2-ой і **3-юю бачыну** запаўняюць артыкулы на тэмы партыйнага, гаспадарчага або культурнага жыцьця, розныя матар'ялы на юбілейныя і гістарычна-культурныя даты. Пад многімі артыкуламі мы можам знайсьці прозьвішчы работнікаў, ударнікаў, стаханаўцаў, калгасных брыгадзіраў, настаўнікаў і інш. Але гэта зусім не азначае, што гэтыя артыкулы запраўды імі і напісаныя. Гэтыя матар'ялы **«арганізаваныя»** супрацоўнікамі газэты, а значыцца і напісаныя гэтымі-ж супрацоўнікамі.

Прэса БССР дастае гэткія артыкулы галоўным чынам ад філіі ТАСС на Беларусі — БЕЛТА або непасрэдна ад прэсбюро з Масквы. Шмат артыкулаў прыходзяць з адзнакаю «абавязкава для друку». Вось таму той самы артыкул, напр., аб Дзяржынскім, можна прачы-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Новыя камуністычныя закіды.** Пасьля абвінавачваньняў, што быццам збройныя сілы ЗН ў Карэі над тэрыторыяй Паўночнай Карэі й Кітаю рассыпаюць з самалётаў мух з заразьлівымі хваробамі, камуністыя выступілі цяпер з новымі абвінавачваньнямі. Найменна, камуністычнае радыё ў Пэкіне заявіла, што войскі ЗН пачалі ўжываць у Карэі атрутных газаў. Гэтыя новыя напады ўважаюць заходнія палітыкі, як магчымае папярэджаньне камуністымі прымяненьня імі атрутных газаў у Карэі.

**Амэрыканскія перадвыбары.** У амэрыканскіх перадпрэзыдэнцкіх выбарах у штатах Вэрмонт і Брэгон асягнуў перамогу ген. Айзэнгаўэр. Аднак у цэласьці ён яшчэ стаіць з заду другога рэспубліканскага кандыдата — сэнатара Тэфта, які здабыў ужо для сябе 378 дэлегатаў, тады, калі Айзэнгаўэр толькі — 259.

**Перад поўнай незалежнасьцю Нямеччыны.** Амэрыканскі высокі камісар у Заходняй Нямеччыне паведаміў, што 5 чэрвеня сёлета будуць зьліквідаваныя ўсе раённыя прадстаўніцтвы амэрыканскага камісарыяту для Нямеччыны, а 30 чэрвеня — ўсе краёвыя камісарыяты.

**Адкліканьне вымушаных распараджэньняў у Карэі.** Новы галоўнакамандуючы войскамі ЗН ў Карэі ген. Клярк уняважніў усе прыабяцаныя ўступкі, што былі зробленыя ген. Доддам падчас ягонага зьняволеньня камуністычнымі ваеннапалоннымі.

**Генэральны дагавор будзе падпісаны.** Канстытуцыйны Суд заходнянямецкай рэспублікі адкінуў просьбу нямецкіх сацыял-дэмакратаў, каб ён забараніў канцлеру Адэнаўэру падпісваць генэральны дагавор з заходнімі дзяржавамі й дагавор пра эўрапэйскую армію. Пасьля гэтага сацыял-дўмакраты высунулі дамаганьне прадыскутаваць гэтыя дагаворы ў нямецкім парлямэнце яшчэ перад іх падпісаньнем урадам.

**Ген. Франко за вайну супраць СССР.** Гішпанскі парлямант распачаў сваю чацьвёртую сэсыю. Ген. Франко сказаў з гэтай нагоды прамову, у якой заявіў, што камунізм трэба разьбіць пры помачы сілы й вярнуць усходняэўрапэйскім народам свабоду.

**Савецкія контрмеры.** Нямецкія й альянцкія колы ў Бэрліне маюць падставы думаць, што між савецкай зонай Нямеччыны з аднаго боку й Савецкім Саюзам і ягонымі сатэлітамі — здругога будзе таксама падпісаны дагавор падобны да дагавору паміж Заходняй Нямеччынай і заходнімі дзяржавамі. Гэта пацьвярджаецца інфармацыямі з колаў СЕД і міністэрствам замежных справаў савецкай зоны.

**«Нацыянальная царква» ў Альбаніі.** Альбанскі камуністычны ўрад разьвязаў каталіцкую царкву, падпарадкаваную Рыму, і праклямаваў стварэньне «нацыянальнай царквы». Усе сьвятары маюць цяпер скласьці прысягу вернасьці альбанскай дзяржаве.

**Арышт арцыбіскупа ў Кітаі.** Камуністыя арыштавалі арцыбіскупа Чу-Шы-Шэна, якому перад гэтым запрапанавалі ўзначаліць каталіцкую «нацыянальную царкву» Кітаю. Калі арц. адмовіўся, яго абвінілі ў «сабатажы камуністычнай рэформы царквы».

**Камуністыя ўключаюць прымусова ваеннапалонных у сваю армію.** Адмірал Джой абвінаваціў 21 травеня камуністых, што змушаюць альянцкіх ваеннапалонных уступаць у рады сваей арміі ў Карэі. Камандаваньне збройнымі сіламі ЗН ацэньвае, што такі лёс спаткаў ужо 50.000 ваеннапалонных, галоўна паўдзённых карэйцаў.

**Плывучая радыястанцыя.** Карабель «Курыер», на якім знаходзіцца радыястанцыя «Голасу Амэрыкі» дзеля радыяперадачаў за зялезную заслону, вярнуўся із свайго пробнага падарожжа на Караібскім моры, якое трывала тры месяцы. Падчас гэтага падарожжа быў выпрабаваны засяг гэтай радыястанцыі й сьцьверджана, што радыяперадачы, надаваныя на водах Панамскага каналу, можна было чуць у Шкоцыі, Гішпаніі й на Гавайскіх астравох.

**Манэўры 250 караблёў.** Звыш 250 ваенных караблёў і 400 морскіх самалётаў, што належаць да 9 дзяржаваў Атлянтычнага Пакту, возьме ўдзел ў вялікіх манэўрах, якія адбудуцца ў другой палавіне чэрвеня сёлета на моры Паўночным, канале Ляманш і суседніх водах.

**Новыя амэрыканскія сілы ў Эўропе.** У Нямеччыну прыбыло новых 60 рэактыўных зьнішчальных самалётаў 137-ай групы амэрыканскай авіяцыі. Месцам іхнага прабываньня мае быць Францыя.

**І Канада пасылае ў Эўропу свае самалёты.** У Мэц (Францыя) хутка мае прыбыць 12 эскадраў канадыйскіх зьнішчальных рэактыўных самалётаў.

**Просьба падпісаная крывёй 15.000 ваеннапалонных.** 15.000 ваеннапалонных карэйцаў пераслала парляманту Паўдзённай Карэі просьбу, падпісаную іхнай собскай крывёй, каб ня змушалі іх вяртацца ў Паўночную Карэю. Просьба канчаецца славамі: «Ня высылайце нас на пэўную сьмерць.»

**Японія хоча быць сябрам ЗН.** Міністэрства замежных справаў Японіі заявіла, што яна хутка зложыць заяву пра ўваход у склад ЗН. З гэтае нагоды чакаюць, што будзе ў Японіі сільная палітычная апазыцыя з боку левых радыкалаў і камуністых. Таксама лічацца з тым, што Савецкі Саюз скарыстае із свайго права вэта, калі гэтая справа знойдзецца на парадку дня Рады Бясьпечнасьці ЗН.

**Крытычнае палажэньне ў Тунісе.** Крызыс у Тунісе апошнім часам завастрыўся. Пасьля таго, як туніскі бэй адмовіўся падпісаць францускую пастанову пра ўвядзеньне ваеннага палажэньня, знаходзіцца пад дамашнім арыштам.

**Перасьцярога Савецкаму Саюзу.** Міністар замежных справаў ЗША Эчысон заявіў аб тым, што ЗША будуць станоўка бараніць усе пазыцыі заходніх дзяржаваў у Бэрліне й бараніць інтарэсы насельніцтва заходняга Бэрліна й заходніх зонаў Нямеччыны. Камуністычныя загрозы ня ў сілах змусіць Захад адмовіцца ад сваей палітыкі ў дачыненьні да Нямеччыны.

**Бэрлін на іншым палажэньні.** Тады, калі пасьля падпісаньня генэральнага дагавору зь Нямеччынай будуць зьліквідаваныя ўрады высокіх камісараў заходніх альянтаў у Нямеччыне, гэта ня будзе адносіцца да заходняга Бэрліна. З гледзішча на выключнае палажэньне заходняга Бэрліна, там альянцкая камендантура будзе й надалей найвышэйшай уладай.

**Вэнэцыя тоне.** Бурмістр Вэнэцыі паінфармаваў, што фундаманты тысячы дамоў гэтага гораду падмытыя хвалямі й праплываючымі ўздоўж дамоў, водамі каналаў. Зьбліжаецца мамэнт, калі гэтыя дамы могуць заваліцца, а зь імі затонуць цэлыя кварталы гораду. Каб да гэтага не дапусьціць, патрэбна вялікіх фінансавых сродкаў.

**Саранча заграджае голадам Сярэдняму Ўсходу.** Саранча шырыцца зь нябывалаю шыбкасьцю ад пачатку бягучага году. На пачатку травеня сёлета цэлыя хмары саранчы праляцелі тысячы міль і апусьціліся ў францускім Самалі, Эрытрэі, Судане, Емане, Ярданіі, Ізраэлю, Эгіпце, Сырыі, Іраку, Іране й Пэкістане. Такой плягі саранчы там ня помняць ад 100 год.

## Наш юбілей

(Заканчэньне)

Але прэса на эміграцыі, у тым ліку й нашая «Бацькаўшчына», спаўняе яшчэ дадатковыя, можна сказаць выключныя, функцыі. Перш за ўсё яна бароніць сваіх суродзічаў ад асыміляцыі й нацыянальнае сьмерці, якая ў умовах эміграцыйнай расьцярушанасьці сярод чужых народаў асабліва ім заграджае. Яна паглыбляе ў іх беларускія нацыянальныя ідэі, якіх народ наш на бацькаўшчыне ня мае найменшае магчымасьці выказаць публічна. Яна, як і роднае друкаванае слова наагул, не дае нашым суродзічам, асабліва маладому падрастаючаму пакаленьню забыцца роднае мовы.

Напасьледак, у ўмовах эміграцыйнае расьцярушанасьці нашая прэса адыгрывае важную ролю лучніка паміж усімі эміграцыйнымі асяродзьдзямі й паасобнымі людзьмі.

Мы ўпэўненыя, што ўсе гэтыя заданьні, што стаяць перад вольнай прэсай, у васаблівасьці перад прэсай эміграцыйнай, «Бацькаўшчына» ў меру сваіх сілаў і магчымасьцяў старалася выконваць як найлепей. Аб гэтым нас пераконваюць шматлікія пісьмы й выказваньні нашых чытачоў з розных краінаў іхнага расьсяленьня, якія кажны дзень атрымлівае рэдакцыя. Аб гэтым сьветчаць і зьмешчаныя ў гэтым нумары прывітаньні ад нашых арганізацыяў і паасобных грамадзянаў у ЗША, у шчырасьці якіх мы ня сумляваемся. Ужо той факт, што на балонах «Бацькаўшчыны» вырабілася досыць значная колькасьць новых беларускіх журналістых, мае не малое значэньне з гледзішча на амаль поўную адсутнасьць у нас прафэсыянальных журналістычных кадраў, бо падчас чужых акупацыяў на бацькаўшчыне ня было спрыяльных умоваў для іхнага паяўленьня.

Уваходзячы ў сваю другую сотку, «Бацькаўшчына» будзе няўпынна старацца зь яшчэ большымі высілкамі служыць нашым нацыянальным ідэям, дзеля якіх мы ўсе апынуліся на чужыне. Будзе ім служыць нязьменна зь цьвёрдай вераю, што нашае грамадзянства руплівае аб нашых нацыянальных інтарэсах, прыйдзе нам з належнаю п маччу.

**Рэдакцыя**

# Жанчыны самарытанкі

«The lady with the lamp» — Жанчына з лямпкаю — называлі яе суродзічы ангельцы, яе, якая адважылася першая пайсьці з жаўнерамі на фронт, каб несьці раненым дапамогу.

Першая сястра міласэрдзя, якая зь няштодзеннай адвагаю пасьвяціла ўсё сваё жыцьцё справе міласэрдзя. Кажны вечар, кажную ноч ішла Florence Nightingale з сваёй малою начною лямпачкаю да хворых-раненых, нясучы для кажнага зь іх слова пацехі й спагады. Сталася яна для хворага сымбалем уцялесьненага анёла, адна прысутнасьць якой здавалася ўцішала найвялікшы боль. Страху ня знала гэтая самарытанка, яна зложыла сваё жыцьцё ў вахвяру вялікай, а як-жа простай хрысьціянскай ідэалёгіі: «любі бліжняго свайго, як самога сябе».

Удзячны народ узьнёс ёй прыгожы памятнік і абяцаў не забыць ніколі ейнага імя.

А за ёю пашлі іншыя жанчыны: дзесяткі, сотні, тысячы сясьцёр-самарытанак рознай нацыянальнасьці, рознага паходжаньня, рознай асьветы, з тым самым аднолькавым жаночым дзіўным сэрцам, якое загараецца так часта сьвятым агнём бязьмежнага міласэрдзя да людзкае нядолі, людзкое бяды.

І прайшлі цэлыя легіёны іх, нясучы сьвятло-дапамогу чалавеку: брату, сястры. Прайшлі ціха й згасьлі, часта забытыя, бязіменныя.

Былі й у нашым народзе ясныя постаці жанчынаў-самарытанак. І ня дзіва: народ, які выдаў слаўныя прыклады да насьледваньня, якімі былі Рагнеда й Сьв. Эўфрасіньня, даў і сотні іншых ідэйных дачок бацькаўшчыны сваёй з сэрцам адкрытым на людзкую нядолю. Былі яны й дзеялі на ваюючай дарагой Случчыне, сьхіляюцца яны й сяньня над раненым юнаком-партызанам, ёсьць яны й паміж намі на выгнаньні.

Праз усе жудасьці вайны, прымусовае працы, крыўднага, паніжаючага людзкую годнасьць трактаваньня немцамі йшлі яны — беларускія жанчыны камяністымі сьцежкамі выгнанскага, вандроўнага жыцьця. Несьлі яны ў сэрцы сваім балючы ўспамін страчанай глебы роднай, якая жывіла іх, несьлі ўсё, чым жылі там, на бацькаўшчыне: веру сваю, звычай свой, песьню й мову сваю, і чым цяжэй ім прыходзілася, чым мацней угіналіся пад ударамі жорсткага лёсу, — тым ярчэй разгараўся ў сэрцах нешчасьлівых агеньчык любові й спагады да бліжняго свайго, сябры ў незавіднай выгнанскай долі сваёй.

Няшчасьце, бяда гартавала іх, нашых «Ladies with the lamp».

*

Сьвятой памяці Аўгеню Кажан сустрэла я ў працы Жаночай Арганізацыі ў вадным зь беларускіх лягераў у Нямеччыне, у Остэргофэне.

Адна зь ініцыятарак паўстаньня Жаночага Згуртаваньня ў лягеры, адна зь ініцыятарак сыстэматычнай, арганізаванай працы, дзейны сябра прэзыдыюму Згуртаваньня, фаховы сакратар арганізацыі, поўная энтузыязму ў працы, сяброўка з сэрцам, выпаўненым хрысьціянскім міласэрдзем да чалавека, заўсёды ахвотная дапамагчы — самарытанка.

Разам зь некалькімі іншымі актыўнымі сяброўкамі арганізацыі, праводзілі сваю дапамаговую працу, пад клічам: дапамажы патрабуючаму!

А патрэбы здараліся розныя. Ведалі аб харытатыўнай працы Жаночага Згуртаваньня хворыя на тубэркулёз нашыя суродзічы, ведалі нешчасьлівыя зьняволеныя, адчулі дапамогу сіроты й хворыя. Жанчыны дапамагалі. Паміж імі аднэй зь першых была сьв. памяці сяброўка Аўгеня, бо гарэў у яе сэрцы сьвятым агнём зьніч любові-спагады.

Аўгеня Кажан адыйшла ад нас, згас сьвяты агонь у сэрцы нябожчыцы, адыйшла, каб супачыць у вечным сьвятле Прадвечнага.

Аднэй «жанчынай з лямпкаю» стала меней у нашых сьціплых радох.

*

А патрэбы засталіся й сяньня, сьлёзы, бяда й нядоля людзкая кліча, просіць спагады — дапамогі.

У Нямеччыне й сяньня церпяць нястачу матарыяльную суродзічы нашыя, сёстры й браты нашыя, дзеткі малыя, старыя й хворыя. Церпяць і маральную нястачу, якая для некаторых адзінак больш балаючая за матарыяльную.



**Вялікі размах беларускай нацыянальнай дзейнасьці ў Бэльгіі, аб якім мы часта інфармуем на балонах «Бацькаўшчыны», беларускае грамадзянства ў вялікай меры заўдзячвае нястомнай і самаахвярнай дзейнасьці палкага беларускага патрыёты айца Аўгена Смаршчка — настаяцеля Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы ў Бэльгіі. Айцец Аўген адначасна ачольвае ўрад Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускай Эміграцыі (САБЭ) і Саюз Беларусаў Бэльгіі, будучы старшынёю гэтых арганізацыяў. Ён-жа зьяўляецца кіраўніком інтэрнату беларускае моладзі ў Лювэне, узгадоўваючы нашае маладое пакаленьне ў духу хрысьціянства й беларускага патрыятызму. На ілюстрацыі айцец Аўген падчас Божае Службы.**

Паступова вы, тыя шчасьлівейшыя з пасярод нас, што выехалі, пачынаеце ўважаць, што для заспакаеньня голасу сумленьня вашага хопіць выслаць на Вялікдзень ці Каляды друкаванае павіншаваньне з собскаручным подпісам, што для бедных ДП гэтага павінна аж надта хапіць.

А яны, гэтыя няшчасныя слова чакаюць ад вас, ня друкаванага віншаваньня, слова добрага, людзкага слова спагады ад сябры, зь якім дзяліліся ў лягеры апошняй скарынкай хлеба, ад сябры, зь якім варылі ў палоне з знойдзенай на сьметніку скуркі ад сала зупу, ад сяброўкі, зь якой гібелі разам на хвабрыцы. Паверце, гэта часта шмат больш, чымся той даляр, які адчэпнага усуне некаторы з вас у вялікоднае друкаване павіншаваньне.

А ёсьць між намі й хворыя людзі, ізь зьнішчанымі нэрвамі, часта зусім адзінокія паміж іншанацыянальнымі групамі й цяжка ім, паверце, надта цяжка й балюча чакаць на ліст ад быўшага блізкага сябры па некалькі месяцаў. Мне здаецца, што трэба ўсё-ж неяк знайсьці час на адпісаньне ліста, на які так прагна чакае нешчасьлівы, усё яшчэ бяздомны ДП, і хочацца, каб знайшоў ён тое, чаго шукае у гэтым лісьце: больш далікатнасьці, больш зразуменьня да нашай тут незавіднай долі, а ня вечныя скаргі на брак часу на напісаньне кароткага ліста. Гэтага нядольныя ніяк зразумець мы, як ніколі не зразумее вашага сяньняшняга дэвізу: Time is money — запраўдны эўрапэец, якімі ўчора былі ўсе вы.

І мімаволі разглядаемся ў гэтай патрэбе за тымі, хто дапаможа, за адзінкамі, якія захавалі ў памяці й пачуцьцях нядолю братоў сваіх, за жанчынамі нашымі, якіх Бог абдарыў больш чулым на патрэбу людзкую сэрцам. Разглядаемся й бачым іх, але ня шмат яшчэ. І хочацца крыкнуць вам сяброўкі: Сьмялей, працы шмат у розных галінах, толькі актыўнасьці болей, ініцыятывы, а здольнасьці, уменьня хопіць напэўна.

Хацелася-б на заканчэньне выказаць сардэчную падзяку тым арганізацыям і асобам, якія з поўным зразуменьнем падхапілі наш кліч аб дапамозе патрабуючым у Нямеччыне:

1. У першаю чаргу аддзелу БАЗА ў Дэтройт — Ініцыятыўнай групе па дапамозе суродзічам у Нямеччыне на рукі Сп. Сердзячэнку за прысланыя 45 даляраў на імя Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне дзеля распадзелу найбольш патрабуючым.

Арганізацыя грошы разьдзяліла, бяручы пад увагу пажаданьні паважаных ахвярадаўцаў.

2. Студэнтам Лектарату Беларусаведы ў Канадзе на рукі Сп. Ганька за прапанову індывідуальнай дапамогі, якая напэўна дасьць пазытыўныя вынікі. Пастараемся прыслаць адпаведную колькасьць адрасоў.

3. Асабіста Спадару Рэдактару К. Акуле за кранаючы сэрцы хрысьціянскі заклік аб дапамозе, зьмешчаны ў вялікодным нумары «Беларускага Эміґранта».

4. Асабліва прыемным нам ёсьць адзначыць акцыю беларускіх жанчынаў у Аўстраліі.

Прачытаная абвестка аб узнаўленьні дзейнасьці Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне адыграла ролю ажыўляючага імпульсу да энтузыястычнай працы ініцыятыўнай групы беларускіх жанчынаў.

«Як толькі я прачытала абвестку аб узнаўленьні працы Жаночага Згуртаваньня ў Нямеччыне, я не магла больш сядзець бязьдзейнай. Сяньня ўжо напісала ўсім нашым жанчынам тут у Аўстраліі, каб зарганізавацца й нам. Мы будзем Вам дапамагаць у працы, будзем дапамагаць патрабуючым нашым братом і сёстрам, мы будзем, бо мы павінны гэта рабіць... (зь пісьма былой сяброўкі Жаночага Згуртаваньня ў Остэргофэне).

Няхай-жа сьвятло зь іх, сагрэтых пачуцьцём міласэрдзя. сэрцаў асьвеціць шэрыя, ня раз безнадзейныя дні нашых хворых і інвалідаў, вэтэранаў вайны, няхай выклічуць усьмешку радасьці на вуснах беларускіх дзетак, а ў іх матак сьлязу падзякі.

**З. Ст.**

# Аб прэсе у Савецкай Беларусі

(Заканчэньне)

тацьу гадавіну сьмерці ката ў тысячах газэтаў на дзесятках моваў.

Тэматычна артыкулы вельмі абмежаваныя. Існуе пэўны індэкс дазволеных тэмаў, раз-по-раз пераграваныя бальшавіцкімі журналістымі. Найменш на 50%, а ў часе акцыяў, зьездаў і сэсыяў на ўсе 100% зьмест газэтаў тожсамы. Цэнтралізаваны спосаб дастаўленьня інфармацыі і артыкулаў, партыйныя пастановы й казёншчына ў насьвятленьні ўсіх бяз вынятку праблемаў і падзеяў, пракруставы ложак бальшавіцкае ідэалёгіі, шаблённасьць формы й зьместу робіць газэты падобнымі і малачытальнымі, як два аднальковых школьных падручнікаў. І значныя наклады выданьняў не даводзяць супрацьлеглага. Папера ў СССР — рэч дэфіцытная, а таму газэтны аркуш там выконвае шмат іншых функцыяў, зусім ня думаных для газэты...

Інфармацыя аб міжнародных падзеях мае ў бальшавікоў другараднае значаньне, а таму звычайна яе і зьмяшчаюць на апошняй **4 бачыне,** што дае 20—25% зьместу газэты. Манаполь у паданьні і насьвятленьні замежнае інфармацыі ды камэнтары аб міжнародным жыцьці прысябечаны ТАСС. Ні адна газэта ў БССР ня мае сваіх дапішчыкаў заграніцай. Наагул, прэсу БССР, як і іншых «рэспублікаў», заграніцаю рэпрэзэнтуе ТАСС, «Правда» ды «Известия». Не дазваляецца таксама рэспубліканскай прэсе, ня толькі зьмяшчаць, але нават і атрымліваць замежных выданьняў ды вестак замежных радыё.

Мэтады-ж працы ТАСС на гэтулькі адменныя, што на іх таксама крыху спынімся. У сталіцах усіх краінаў, з якімі СССР мае дыплёматычныя зносіны, маюцца й прадстаўнікі ТАСС. Але, калі яны не занятыя шпіянажам, дык праца іхная зусім простая. Яны наагул трымаюцца ў цені. Савецкі дапішчык ня мае права, без дазволу або заданьня па партыйнай лініі, наладжываць сувязі (кантактаў) з журналістымі краіны яго побыту, з яе палітычнымі дзеячамі. Ен амаль ня прысутнічае на міжнародных канфэрэнцыях. Яны, савецкія журналістыя, ніколі не падаюць уласнае ацэнкі падзеяў і фактаў, не пасылаюць нават на собскую руку набытых інфармацыяў. Яны павінны пасылаць толькі сухія факты, апісаньне падзеі, водгукі прэсы, для чаго яны выкарыстоўваюць мясцовую прэсу краіны, бюлэтэні прэсавых бюро ды паўафіцыйна набытую інфармацыю ад мясцовых асьлепленых бальшавізмам людзей ці ад камуністых той краіны, дзе яны прабываюць.

З атрыманых матар'ялаў у ТАСС робяць выбарку. Частка ідзе для г. зв. спэцбюлетэняў, куды зьмяшчаецца ўсё, што шкодна бальшавіком і аб чым не павінна ведаць насельніцтва. Гэтыя бюлетэні прызначаюцца для Палітбюро, ураду, ЦК ВКП(б) і міністэрстваў.

Рэшту вестак рэдактары ТАСС абрабляюць у адпаведную для савецкага чытача форму і пазьней падаецца праз прэсу. З гэтае куцае інфармацыі выкрэсьліваецца ўсё, што хоць крыху гаворыць аб праўдзе. І толькі тады паднявалены Беларус-чытач дастае цалком скрыўленае, сфальшаванае адлюстраваньне жыцьця заграніцы.

Прамовы дзеячоў і палітыкаў ЗША або Англіі ТАСС падае ў 30—40 радкоў, адпаведна іх апрацаваўшы. Яшчэ ня было выпадку, каб быў зьмешчаны поўны тэкст, скажам, прамовы Трумэна ці Эчысона бяз камэнтараў. Затое прамовы Молатава ці Вышынскага зьмяшчаюцца нат працягамі даслоўна.

У скарочаных прамовах замежных дзеячоў усё дадатнае выкідаецца, або фальшуецца, разьдзмухаецца ўсё ад'емнае. Выпукляюцца весткі аб беспрацоўі і забастоўках, дэманстрацыях і харчавых абмежаваньнях, аб палітычных і гаспадарчых цяжкасьцях і падобным у «капіталістычных краінах». Пры тым гэта заўсёды размалёўваецца, фальшуецца часам да непазнаньня. Калі-б чытач паверыў гэтым весткам з прэсы БССР, дык ён мусіў-бы думаць, што адзіным жаданьнем людзей у сьвеце ёсьць жаданьне пашырэньня «цяпла сталінскае канстытуцыі», бальшавізму ды сьветнае рэвалюцыі...

Усё гэтае варыва падаецца паняволенаму Беларусу ўжо на працягу 35 год. Каплі й каменьне дзяўбуць, кажа прыказка старадаўных рымлянаў. Галава-ж паняволенага Беларуса, ізаляванага шчыльным мурам зялезнае заслоны ад рэшты сяньня яшчэ вольнага сьвету, далёка ня камень. А дзяўбуць мазгі гэтае галавы зусім ня каплі, а цэлыя паводкі штодзеннае брахні, атруты й правакацыі маскоўскага бальшавізму. Ужо 35 год бальшавікі вынішчаюць усё беларускае. Гэта не застаецца і не засталося бяз вынікаў. Ідэі накінутыя беларусам, сыстэматычна і стала праводжаныя праз гэтыя 35 год яшчэ не аднаго вабяць да сябе, галоўна тых, хто ня ведае махлярстваў Масквы, якія выраслі толькі ў савецкіх умовах і таму прыймаюць усё гэта за праўду. Зачыняць на гэта вочы мы не павінны. Трэба ўлічываць гэтыя «заслугі» перадусім «беларускае» прэсы БССР і належна ня толькі падрыхтавацца, але ўжо і сяньня пачаць працу над выпрацоўкай кадраў для вольнае, запраўднае беларускае прэсы ды супрацьатруты.

**Бруклін, 15. 5. 1952** **М. Вольны.**

ЯКУБ КОЛАС (18)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

### XXII

### НА ГЛУШЦОВЫХ ТОКАХ

Адбыў свой час панура-люты.
Дзянёк патрошку прыбывае,
Прыветней сонейка бліскае,
І рве рачулка свае путы.
Ідзі, зіма, ідзі ў дарогу:
Прайшоў твой час, дзякаваць Богу!
Пабач, старая: там, у полі,
Чарнеюць леташнія ролі!
А ўзгоркі, вунь, паразумнелі,
Бо вельмі значна палыселі.
А лес, глядзі, які вясёлы!
І дуб сьмяецца, хоць і голы.
Паслухай добра: чуеш песьні?
Цяпер яны ўжо не заўчэсьне,
Ужо бо сонейка праменьні
Гатуюць шлюбныя адзеньні
І ткуць карону дарагую
Вянчаць зямельку-маладую...
Пара, зіма, табе складацца
І ўпроч з кудзеляй выбірацца!
І вось у дзень адзін прыўдалы
Загаманілі перавалы.
І гоман, сьпеў і шум усюды,
Як-бы ў цымбалікі і ў дуды
Зайгралі тысячы музыкаў,
Бы іх на баль тут хто заклікаў.
Ідзе вясна з цудоўнай лірай;
На звон яе зьляцеўся вырай,
І жыцьцё ўсюды вынікае
І пташка песьню зачынае.
— Вясна павінна быць раджайна:
Вада шуміць штось нязвычайна,
Як гром далёкі — густа, глуха
І так прыятна нейк для вуха, —
Міхась, вярнуўшыся з абходу,
Адзначваў добрую прыгоду.
А Костусь дома ня ўтрывае,
Паслухаць шум той выбягае;
І праўда: гук такі цікавы...
Як мілы гэтыя праявы!
Аб чым гудзе вада так важна,
Так мілагучна, так працяжна?
Напэўна гэтая вадзіца
Мабыць якая чараўніца,
Калі наўперад многа знае
І пра раджайнасьць нешта бае.
І навет тата даў ёй веры.
Праз дзень прышоў наказ з кватэры,
Якога бацька спадзяваўся,
Каб у Камлішчы ён зьбіраўся,
Бо ўжо глушцы затакавалі,
А іх прад сьвятам палявалі;
Але ўпярод, да паляваньня,
У змрок вячэрні і ў сьвітаньне
Туды на подслухі хадзілі,
Глушцоў шукалі і сачылі,
Пакуль паны ня прыязджалі.
Два буданы ў бары стаялі:
Адзін — салаш яловы просты,
Другі драўляны і з памостам;
І вось, як панства наязджала,
То тут яно і начавала.
Лясьнік у будцы сваёй гнуўся,
Хоць да агню ён больш гарнуўся;
Але і тут было няміла:
Адзін бок мерз, другі смаліла.
Міхал сабраўся, апрануўся
І ў лес павольна пацягнуўся:
Ў лясох сьнягі яшчэ ляжалі,
Ды ўжо з узгоркаў саступалі
І больш туліліся ў лагчынах
Ды па цяністых раўчавінах.
Зіма і тут зьбірала клумкі.
Міхал ішоў, зь ім йшлі і думкі,
А зь імі вобразы ўставалі
І ў сэрцы водгук выклікалі.
І часта хваля абурэньня,
Глухі пратэст нездаваленьня
Яго ахваціць і ўскалыша
І гневу знак ў душы напіша.
Паном пацеха і забава,
І у іх гусьце гэта справа:
А ты, як Каін, валачыся,
У будане па тыднях гніся
Ды часам пану не ўнаровіш
І «пся крэў», «дурня» часта зловіш,
З апошніх слоў цябе аблае,
А то і горш яшчэ трапляе.
Была-б свая зямля і хата!...
Ды будзь ты тры разы праклята
І служба панская, і ласка,
І доля вечная падпаска!
І многа розных дум устане,
Пакуль будан той зь лесу гляне.
Між буданоў агонь палае,
Міхала Пальчык там чакае;
З другога боку йдзе Гавака.
Стары аб'езчык і служака,
Сядзіць Абрыцкі на калодзе
І грэе ногі, люльку курыць,
Зачаў гаворку, балагурыць
Аб рознай рознасьці, прыгодзе.
Чаго ён толькі ні ўспамяне!
Каму ў душу ён ні загляне!
І абгаворыць, пасьмяецца;
Паном таксама дастаецца,
Бо пан Абрыцкі, сказаць сьмела,
Між імі цёрся жыцьцё цэла;
Быў на Палесьсі, на Валыні —
Дзе толькі доля не закіне!
Сядзеў зь ім поруч Дзямідовіч,
З другога боку — Астахновіч,
Ўжо лясьнікі немаладыя,
І хлопцы сталыя, такія,
Зь якімі можна выпіць чарку,
Таксама й езьдзіць па іх карку,
Чаго Абрыцкі ня цураўся.
Па службе выйдзе папушчэньне
Ці так няважнае здарэньне,
Абрыцкі пэўна ўжо падкусіць,
Данесьці пану аб тым мусіць
Ды ад сябе яшчэ прыбавіць,
Каб чалавека абясславіць;
Дык на яго ня мелі вока
І зь ім трымаліся далёка,
Хоць гэта ў вочы не казалі.
Ды лясьнікі здарэньне знаю,
Калі Абрыцкі абмахнуўся
І пад Пшавару падвярнуўся.
Пшавара быў лясьнік сярдзіты,
Апроч таго, ня лыкам шыты:
Шырок, плячыст, як дуб стары,
І зь ім да трох не гавары!
І дужы быў ён не па меры.
Ён быў з Абрыцкім на кватэры,
І вось які быў тут учынак:
Пшавараў конь каля драбінак
Стаяў і хрумстаў сабе сена,
Сянцо мурожнае, бы пена.
Вярхом Абрыцкі прыязджае,
Сюды свайго каня стаўляе.
Пшавара гэта зауважыў.
— О, каб яго пярун распляжыў!
Які-то гад, які вужака,
Які-то кручаны сабака
Пусьціў каня да майго воза?
— Якая страшная пагроза

# Літаратурны Дадатак

## Гарыць і ня гасьне пад попелам прысак

**Панькоўскабудаўскае паўстаньне**

У сьнежных далінах, далінах бяскрайных
гарыць і палае пад ветрам паходня.
І носяцца іскры над струджаным краем,
наусьцяж і Заходняй і Усходняй.

**Уладзімер Дубоўка**
«Плач навальніцы».

Беларусь. Радань. Панькоўская Буда. З давен-даўна тут жывуць працавітыя беларусы. На поўдзень ад Панькоўскае Буды, аж пад самы Гомель, пайшлі вялікія і малыя Буды, або у перакладзе на сучасную мову — старыя, яшчэ радзіміцкія смалярні. А на поўнач ад Панькоўскае Буды праз усю Смаленшчыну і Віцебшчыну аж да Полацку пайшлі вялікія і малыя, яшчэ крывічамі заснаваныя, Рудні. За савецкія часы Панькоўская Буда сталася цэнтрам аднайменнага сельсавету Касьцюковіцкага райёну, Магілёўскае вобласьці, БССР.

Жылі ў Панькоўскай Будзе два браты Маруды — Марка і Янка. Паміж іншых 150 гаспадароў сяла яны ўважаліся за найбольш заможных. Старэйшы, Марка, меў на сваім утрыманьні бацькоў, двох дзяцей і кульгавага брата. У малодшага Янкі было чэцьвёра дзяцей, меншых за шэсьць год. Браты мелі на абодвух адзін вятрак, перададзены ім непрацаздатным бацькам. Заможнасьць гэтых двох сем'яў тлумачылася тэй працавітасьцю, якую характарызуе прыказка — «Хто рана ўстае, таму Бог дае». За гэтую працавітасьць, што зусім не пасавала да іхняга прозьвішча, уся Панькоўская Буда з павагай ставілася да братоў Марудаў.

Калі ў 1929 г. Панькоўскую Буду, як і ўсе іншыя Буды і Рудні, ахапіла пошасьць суцэльнае калектывізацыі, да братоў Марудаў увечары нечакана завіталі старшыня і сакратар тутэйшага сельсавету. Яны запранавалі ім заўтра, яшчэ досьвіткам, спакінуўшы ўсю маёмасьць і забраўшы з сабой толькі пілы ды сякеры, зьявіцца разам з сем'ямі на бліжэйшую чыгуначную станцыю Бялінкавічы, скуль цягнік завязе іх да Сібіру. Пачуўшы гэтае, мужчыны насупіліся, завойкалі старыя, загаласілі маладзіцы, а ў адказ ім, хаця нічога і не разумеючы, плачма заплакалі дзеці. Маруды спрабавалі даводзіць, што працуючы ці на млыне ці на ральлі, яны ніколі ня мелі наймітаў, заўсёды спраўляючыся самі, а, значыцца, паводля савецкіх законаў, не зьяўляюцца кулакамі. У адказ старшыня і сакратар заўважылі, што, калі ўсюды ёсьць кулакі, дык яны мусяць мецца і ў Панькоўскай Будзе. Адыходзячы, яны ў рашучы спосаб загадалі спакінуць досьвіткам сяло і зьявіцца на станцыю.

Вестка аб прызначаным на заўтра высяленьні маланкай абляцела ўсіх аднавяскоўцаў і абурыла іх. Некаторыя з сялянаў пайшлі ў сельсавет, каб абараніць Марудаў. Старшыня абазваў іх падкулачнікамі і пристрашыў перавесьці за гэтыя захады на індывідуальны сельска-гаспадарчы падатак. Другія пачалі складаць за братоў агульнае хадайніцтва ў раён і вобласьць. Яны адзначылі ў хадайніцтве, што добра ведаюць Марудаў, як сумленных працаўнікоў, ручаюцца за іх усей сваёй сялянскай грамадой і просяць уладу, як канчалася хадайніцтва — «паймець ласку да старых, убогіх і дзяцей». Без малага ўсё сяло падпісала хадайніцтва, пакрыўшы яго каравымі сялянскімі подпісамі, а часам, з прычыны няпісьменнасьці, і крыжыкамі. Потым яны прышлі да братоў і сказалі:

— Няхай заўтра Янка з гэтай заявай падасца ў Касьцюковічы да раённых уладаў, а другую адтуль пашле поштай у Магілёў да абласных уладаў. А ты, Марка, пільнуй сваю гаспадарку! Якія-ж вы кулакі? Вось пан Цярэшчанка аднаго лесу меў бадай што дзесяць тысяч дзесяцін, а ў вас толькі вятрак, які ад ветру ўва ўсе бакі хіліцца. Не дамо вас у крыўду!

Досьвіткам Янка Маруда пайшоў з хадайніцтвам аднавяскоўцаў у Касьцюковічы. Ен і ня меў на ўвеце, што напярэдадні старшыня сельсавету, даведаўшыся наконт хадайніцтва, паведаміў аб ім на тэлефону дваццаціпяцітысячніка, а той папрасіў раённую міліцыю затрымаць Янку яшчэ па дарозе ў Касьцюковічы за непаслушэнства ўладам і пад канвоям прывесьці ў Панькоўскую Буду. Ужо да Касьцюковічаў заставалася ня больш двох кілёмэтраў, калі міліцыянер, што выехаў адтуль, затрымаў Янку Маруду і загадаў яму ісьці назад. Праз некалькі гадзін стомлены, запылены, пешы ён уваходзіў у роднае сяло, падганяны міліцыянерам. І першы сустрэчны дзед, спачувальна паглядзеўшы на пешага, крыкнуў коннаму:

— Эй, работніцка-сялянскі! Ты-б яшчэ пятлю на ягоную мужыцкую шыю накінуў!

Міліцыянер замахнуўся на дзеда нагайкай.

У сваёй хаце Янка Маруда пабачыў дваццаціпяцітысячніка і старшыню сельсавету, які адразу паскудна вылаяў яго. Яны патрабавалі хадайніцтва, пэўне жадаючы даведацца, хто яго падпаісў увогуле і хто першым.

— Няма ў мяне аніякіх хадайніцтваў — сказаў Янка.

Яго старэнна абшукалі і запраўды ніякіх папераў не знайшлі. Ідучы назад, ён, падпільнаваўшы момант, калі міліцыянер, спакінуўшы яго без увагі, пачаў скручваць цыгарку, кінуў няўпрыцям паперку ў прыдарожную канаву. Разьюшаны старшыня дапытваўся:

— Арцём Лаўрэненка пісаў?

— Я ўчора яго ў вочы ня бачыў — адказаў Янка. Старшыня штурхануў яго кулаком у грудзі і, адыходзячы, загадаў:

— Рыхтуйся! Заўтра мы цябе з братам нарэшце пасадзім на фурманкі. Цэлай кумпаніяй прыдзем выпраўляць.

І заўтра, на трэйці дзень высяленьня, да хатаў братоў разам з старшынёй, сакратаром і дваццаціпяцітысячнікам прышоў увесь тутэйшы беспартыйны актыў. Але іх сустрэла грамада абураных сялянаў, якія шчыльнай сьцяной стаялі вакол Марудавых хатаў.

— Гэй, Кузьма! — крычалі яны актывістым. — Што? Прапіў хату, дык цяпер млын хочаш прапіць? Бач, і Сідар тут! Тэй самы, што дзіця сваё ў жонкі скраў ды ў карты прагуляў. А ты, Хведар, па суседзкіх клецях больш не шпацыруеш?

Актывістыя паспрабавалі прарвацца да хатаў, але на іхнія галавы і сьпіны бяз жалю абваліліся цяжкія мужыцкія кулакі. Пачухваючы зьбітыя мейсцы, яны накіраваліся да будынку сельсавету, а ўсьлед ім крычалі:

— Не дамо нашых Марудаў!

На чацьверты дзень высяленьня раніцой у Панькоўскую Буду ўварваўся наўзгалёп вялікі зводны конны аддзел міліцыі з Касьцюковічаў і Хоцімску. Яшчэ перад самым сялом на ўзгорку яны паставілі кулямёт і выпусьцілі з яго ўгору чаргу куляў. Звальваючы сялянаў з ног сваймі каньмі, зьбіваючы іх направа і налева з усяго размаху нагайкамі, яны прарваліся да хатаў Марудаў. За імі да гэтых хатаў пад'ехалі на фурманках актывістыя. З хатаў вывалаклі пад рукі жанчынаў, выгналі, падштурхоўваючы ў сьпіны, старых, пасадзілі іх на фурманкі, амаль кідаючы туды-ж дзяцей. Спакойныя, нібы скамянелыя твары былі ў Маркі і Янкі, але Бог адзін ведае, як чуліся яны ў гэты час. І вось яны ўжо едуць па вясковай вуліцы у кірунку да станцыі. Вакол іх у два рады гарцуюць міліцыянеры, адганяючы нагайкамі сялянаў. Старая Ігнаціха прыціскае да грудзей пачарнелы ад часу абраз. Ейны сівабароды, сямідзесяціпяцігадовы Ігнат, трымаючы ў руцэ торбачку з беларускай зямлёй, прыўзьнімаецца над фурманкай, хрысьціцца і кляняецца на ўсе чатыры бакі грамадзе, як з даўніх часоў хрысьціліся і кланяліся ўсе тыя, якіх вязьлі на кару. Старэцкім голасам ён крычыць:

— Бывайце, хрысьціяне! Даруйце, дзеля Хрыста, калі часам каго-небудзь пакрыўдзіў. Не дазволіў Бог спачыць пасьля крывавых мазалёў на родным могільніку. Хай будзе Ягоная сьвятая воля! Ведаю, што не вінавайцы вы нашых пакутаў!

— Бачыць Бог, ня вінавайцы! — адказваюць зьгібелыя ад шматлікіх год і цяжкое працы дзяды. Даруй нам, Ігнат!

Адна маладзіца, праскочыўшы праз ланцуг міліцыянераў і не зьвяртаючы ўвагі на іхнюю брудную лаянку і удары нагайкаў, падае Янкавай Агаце збан і скрутак:

— Вось толькі што надаіла. Дзятву напоіш сырадоям. І блінцы прыпяканыя вазьмі.

А вось і ўзгорак, на якім па ранейшаму стаіць тупарылы кулямёт і за якім назаўсёды схаваецца роднае сяло.

— Бывайце, Марка і Янка! Пашчасьліў вам Божа! — крычаць аднавяскоўцы. І Марка і Янка абарочваюцца і бяз словаў нізка да самае сырое зямлі ў апошні раз кланяюцца роднай Панькоўскай Будзе.

Прайшло ладнага часу. Сяло Панькоўская Буда ўжо даўно згубіла сваю старую радзіміцкую прыгожую назву і менавалася калгасам імя Кірава. Здавалася, ніколі ў мінулым не існавала ні прымусовае калектывізацыі, ні паўстаньня, а нават калі яны і меліся раней, дык раны ад іх, нібы даўно ўжо загаіліся ў сялянскіх душах. Даўно зьніклі ў лясох

(Заканчэньне на 6 балоне)

## Новыя вершы Натальлі Арсеньневай

### З цыклю «Я і Жыцьцё»

#### Я ЧАЛАВЕК

Я чалавек . . . Усё людзкое,
благое, добрае, —
ўва мне.
І боль людзкі мне сэрца кроіць,
а радасьць — кроў жвавей жане.

Як хвоі ў засенях сасонных
зялёнай жменяю бяруць
і слоць, і сонца, й вецер з гоняў, —
і я усё, усё бяру.

Шматкі мэлёдый, крыўды, соладзь
сустрэчаў лётных, зімаў золь,
і боль, і шум палёў, і голад,
і гнеў, вастрэйшы за лязо.

Усё, адзін акорд пявучы
хай, — а зрадзіла . . .
Песьні я
пляла і стоячы над кручай,
і там, на цёмным дне жыцьця.

І я ня каюся, што йдучы
мяжой жыцьцёвай нацянькі,
ірвала ў ячмянёх калючых
сабе на ўцеху васількі.

Хай іх няма, пялёсткаў сіня
даўно зьлiняла і ў пяскох
шляхоў забытых сяньня стыне, —
яны былі мае і ўсё!

#### ГАРЫ, ЗАХОД!

Няма нічога, што цьвіло й жыло-б аднойчы.
Няма такога, што гарэла-б толькі тут.
Каханьне, ці вясна, зь якімі сяньня скончым, —
ізноў, калі ня ў нас, —
у іншых зацьвітуць.
Усё, што мелі мы,
пасьпеюць зноў загудзіць
нашчадкі, дні жыцьця жнучы заместа нас.
Нічога новага няма і ўжо-ж ня будзе,
хай сьвет перашукаць ад берагу да дна.
Але ці-ж варта ў сьцень таму сыйсьці з дарогі,
што столькі ўжо дзядоў таптала цёплы пыл?
Было ўсё так, ці не, — ня ведаю нічога,
чужою праўдай мне вачэй не засьляпіць.
Гары-ж, гары, заход,
як мо' гарэў спрадвеку.
Я характво тваё вітаю ўпяршыню,
І ў чорны змрок раней ня ўзьніму павекі,
ажно сама ўсе сны, ўвесь чар не перасьню!

#### МОЙ СКАРБ

Мне лёс даў можа болей, чым каму.
Жыцьцё мне дорыць сны блізу на кажным кроку.
Што для адных
нуда і каламуць, —
Мяне пранізвае балюча і глыбока.
Ды я, маўляў скупы,
над скрыняй ня дрыжу
і золата сваё пад ключам ня трымаю.
Мой скарб і ў шуме веснавым дажджу,
і ў голасе гальля, умаенага маем,
і ў колерах, якімі дагарае дзень,
і ў сініх сьценях на зімовых сьцежках . . .
У дробных радасьцях,
будённасьці,
бядзе, —
угледжу я усюды нешта.
Вось і сягоньня . . . Слоць . . .
нанізваюць вянкі
блiскучых пацеркаў драты паміж слупамі,
рукамі мокрымі й шыбы б'юць сукі
сацьмелых ліп,
і цешыцца — ня ў памяць.
А я стаю ужо гадзіну ля вакна,
заклясьці ў словы ймкнуся
і мігценьне
празрыстых кропляў, і мутны туман,
і сутунелыя на бруку сьцені.
Мне хочацца навечна, назаўжды
няўхопны чар слаты расплесьці з тайніц сяньня.
Як той Тамаш Няверны,
зьверадзіць
сусьвету незагоеныя раны.

#### НЯМА КАЛІ

Сьнег стаяў кагадзе,
ды ўсьцяж блішчаць галіны
адценьнем жутлага, старога серабра.
Усе ходзішчы ў вадзе,
і гэтак сіне, сіне,
ў гары, дзе растае клубок ваўняны хмар.
Такую чысьціню
і глыбіню нябёсаў
ці можа высьпяваць найлепшы нават верш?
Я так люблю зямлю,
што ува мне яна й бяз слоў жыве.
Ня ўцісьнеш у радкі
нязграбных літар песьні,
лістом ненапісаным хай ляжыць.
Нябёсам сінь пакінь,
а песьням —нівы песьціць,
сам — праз жыцьцё шукай сьцяжын.
Ня бойся, ня мінеш:
шырокія, вузкія,
парэзалі яны на крыж, на сто прасьцяг.
Калісь, — раней, пазьней,
як торбы з плечаў скінем,
мо' й запляцем у верш красу жыцьця.
А сяньня нашы дні
ў сіло зпавіла праца.
Гадзіны ймкнуць, імкнуць . . .
за імі мкне рука . . .
І сіні, чысьціні
у грукаце й гарачцы
счарнелай хвабрыкі няма калі шукаць.

#### ЗАЛАТОЕ

Шалее вецер . . .
плешчуць у далоні
і скачуць крыжачка й лявоніху лісты.
Рудыя . . . Залатыя . . . у палоне
асеньніх песьняў,
пэўне-ж, залатых.
І нешта і мяне ўзьнімае закруціцца,
заплёўшы рукі — гнуткае гальлё —
мяцеліцай асеньняю над ніцай
і мглою залатой пустых, рудых палёў.
Але зашмат, відаць,
я збаразьніла сьцежкаў
жыцьцёвых, ня рудых і, ўжо-ж, не залатых,
а шэрых ад штодзённасьці і . . . рэшты.
Мне ў залатую высь ня ўзьняцца, як лісты.

#### НАД МОРАМ

Ня ўсё-ж адно рабіць . . .
хай пальцы адпачынуць,
а вочы ўзьнімуцца вышэй хісткіх антэн
у чырвань, золата і сіню,
сіню
ці неба, ці вады, дзе сьцені ўсё гусьцей.
Шалёны акіян,
пан тайніцаў прадонных,
з глыбінямі — магіламі культур
памерлых, аб якіх ня баяць басьні,
сёньня
загаслы і дзіўны лёг супачыць пад мур
нябёсаў, дзе гараць ужо
і гаснуць зоры —
камусьці кіненая жменя медзякоў.
Суладна і ў мяне на сэрцы . . . морак
вячорны і яго працяў наскрозь.
Я слухаю ізноў із прагай . . . цішу,
як сьпеў сырэн лавіў калісьці Одысэй.
І кажны іншы тон чужы мне сяньня, лішні,
хіба . . . перапёлкі голас па расе . . .
Каб косаў звон, хіба,
калі размахам цесна,
а целу радасна крывёю палымнець . . .
Ці жніўная туга, заклятая у песьнях,
і жадная вада ў гладышыку на дне.
Дарма . . . Пяе прастор аб нудных даляглядах,
аб тых, чыю яны загойдвалі тугу,
аб лябірынтах скал, Калхідах, лядах
абтокаў казачных,
аб харасьцьве лагун.
На'т ночы не згасіць аркестры стройнай мора.
Прыслухайся —
гудзе смыком віяланчэль,
а йскрыпкаў галасы зьвіняць высока, ўзгорна,
як над чыёй труной, аж у ваччу пячэ.
Што-ж, хай сабе плыве сымфонія ў сутоньне.
На сяньня і жыцьцю, і музыцы — бывай.
А ўраньні кажны гук патоне ў жуткім гоне
трансмісыяў і кол . . .
Пайду я — працаваць.

#### МЯСТОВЫ ВЕЧАР

Саромячыся, нейк няздатна
шугнула сонца за муры.
Яшчэ адна малая, залатая латка —
і цемрай места закурыць.
І пабягуць шнуры мястовых дрэваў
хавацца ад агнёў рэклямаў, фар,
ад пахаў з брамаў, ад гугнавых сьпеваў,
ад сьмеху ў брук урослых пар.
А мне захочацца такое цішы,
якое тут няма,
а толькі ў нас.
У зоры вышытых узвышшаў
і сноў бязь вёслаў і стырна.

МІХАСЬ КАВЫЛЬ

#### ІДЗІ, ІДЗІ...

**Упала ноч . . .**
**Як эдэльвайсы, зоры**
**Цьвітуць над Альпамі.**
**Аскепак-маладзік**
**У неба ўрэзаўся.**
**Блакітнае на горы**
**Імжыць сьвятло.**
**А ты ідзі, ідзі . . .**

**Якая ноч!**
**Як у сьвятыні, ціха**
**І урачыста —**
**на калені упадзі.**
**Вунь там . . . агонь міргае . . .**
**Шчасьце зь ліхам**
**Кладуцца спаць . . .**
**А ты ідзі, ідзі . . .**

**Трывожыць ноч,**
**як сьмерці жах мінулай . . .**
**І прышласьць мроіцца,**
**як недабіты дзік . . .**
**Нібы агонь,**
**няўсподзеў шуганула**
**Жаданьне жыць.**
**Каб жыць, ідзі, ідзі . . .**

**Разьбілась ноч,**
**і зазьвінелі зоры.**
**Прамень, як штых, блiснуў . . .**
**І маладзік**
**Збляднеў, самлеў . . .**
**Ружовае на горы**
**Імжыць сьвятло.**
**А ты ідзі, ідзі . . .**

1944—1952.

# Каласкі

№ 3 Травень 1952 — наш дадатак для дзяцей — Выходзіць раз у месяц


# Пятровае возера

У паўдзённай Беларусі распасьціраюцца вялікія Палескія балоты, зь вялікай колькасьцю падмоклых лясоў, хмызьнякоў і азёраў. Між гэтых азёраў ёсьць адно малое азярцо, якое мае назву Пятровага Возера. Паслухайце, чаму яго так назвалі...

Шмат год таму назад, калі Беларусь ышчэ называлася Літвою й кіравалася слаўнымі вялікімі князямі, напалі на край татары. Адзін татарскі аддзел загнаўся аж на Палесьсе. Галоўныя князявы войскі баранілі бацькаўшчыны на больш даступных сухіх землях, а на Палесьсі былі толькі малыя аддзелы.

Адзін князяў аддзел даведаўся, што на яго наступае вялікая татарская арда, у некалькі тысяч людзей. А таму, што ня меў сілы супроцьставіцца ворагу ў чыстым полі, дык пачаў адступаць і ўночы прыбыў да вёскі Сямёнаўкі.

Рана, чуць золак, надышлі татары й перад самай вёскай злавілі малога хлапца, які пасьвіў коні.

— Дзе вашыя рыцары? — грозна запытаўся татарскі камандзір праз перакладчыка.

Хлопчык зьбялеў ад страху, але перамог сябе. Ён знаў, што роднае войска ёсьць у вёсцы, але таксама знаў тое, што калі татары нападуць на вёску, то разаб'юць войска, зьнішчаць вёску й пазабіраюць усіх людзей у нявольнікаў. А там у вёсцы ёсьць родная мама, бацька, малыя сёстры. Таму хлопчык адважыўся на вялікую ахвяру.

— Я знаю, дзе нашае войска — сказаў юнак таямнічым голасам. Яны пайшлі ўчора сюды ў лес і там заселі на вас. Я вас правяду такімі дарожкамі, што вы зойдзеце ім ззаду і акружыце іх.

— Дык вядзі нас! — сказаў старшы. — Але памятай... калі выйдзе ня так, як кажаш, — аддзяру табе галаву. А як будзе добра, то станеш багатым.

Хлопцу закінулі вяроўку на шыю, а другі канец яе завязаў кругом сябе той татарын, які ехаў на перадзе аддзелу.

Пятро, так звалі таго юнака, пайшоў, а за ім рушылі татары. І павёў іх хлапец знанымі сабе, вузенькімі сьцежкамі ды дарожкамі. Вядзе іх гадзіну, вядзе дзьве, вядзе да абеду. Ужо завёў іх у такое месца, што направа й налева толькі вада ды балота, а сьцежкаю можа ехаць толькі адзін яздок за другім.

— Слухай, чарцянё! — пагразіў падазрона татарын. — Яшчэ далёка?

— Не, не, — кажа хлапец. — Яшчэ гадзіна, дзьве, а там выедзем на шырокае поле, дзе яны пэўне адпачываюць. Там іх і нападзём.

І яшчэ мінула гадзіна, дзьве, аж бачыць хлапец, што ўжо добра завёў. Ужо і сьцежкі больш няма, толькі кругом возера.

— Дзе мы ёсьць? — крыкнуў татарын і зацягнуў аркан на шыі юнака.

— Вы перад караю Гасподняй! — сказаў Пятро, і пацягнуўшы за аркан з усіх сіл, кінуўся ў возера, пацягваючы за сабою пярэдняга татарына. За імі абодвымі толькі вада забульгацела.

Пакуль татары завярнулі назад з таго месца, то на іх ззаду і з бакоў напалі князявы войскі. Бо над тым лесам, куды Пятро вёў ворагаў, зьляцелася хмара вараньня й падняла такі крык, што князявыя рыцары й людзі зь вёскі й аколіцаў ня ведалі, што сталася, і зайшлі ворага з бакоў іншымі сухімі сьцежкамі.

Усе татары выгінулі там да аднаго. Адны палі ад стрэлаў і мячоў, іншыя патанулі ў балоце.

Данесьлі аб гэтым беларускаму князю, а ён сказаў назваць гэтае возера Пятровым Возерам, на чэсьць ахвярнасьці юнака Пятра.

Кажуць, што асеньнімі начамі выходзяць з таго возера два цені. Адзін белы, а другі чорны. Гэта цені хлапчыны й татарына. І кажную ноч белы цень цягне чорнага ў возера, і так панаўляе ахвяру для свайго роднага краю.

Сьведамыя палескія дзеці моцна кахаюць гэтае возера, так як кахаюць усё Палесьсе й усю сваю бацькаўшчыну — Беларусь.

Пятровае возера вечна будзе напамінаць беларускім юнаком іхняга геройскага суродзіча, які аддаў сваё маладое жыцьцё за бацькаўшчыну.

(З часапісу **«Моладзь»**)

## *Гісторыя аб двух майскіх жукох*

Доўга, бо аж чатыры гады жылі яны ў выглядзе белых, тлустых лярваў у зямлі (Рыс. 1). Няцікавае жыцьцё выпала на іх долю: есьці ды расьці, расьці ды есьці ўсё, на што толькі натрапяць у зямлі іх моцныя жухвы.



А калі здаралася, што цесная сукенка трашчэла па швох, ня турбаваліся, проста ськівалі яе, а іх добрая матка Прырода давала ім новую, абшырнейшую сукеначку.

— Лярвы лінялі, — сказалі-б здагадлівыя чытачы «Каласкоў«.

Сьляпыя, ня бачылі яны нічога, адно разумелі, адно прадчувалі, што прыйдзе ўсё-ж нейкая зьмена ў іх аднастайным жыцьці.

Праўда, здаралася, што нейкая няведамая сіла, бо-ж бачыць яны не маглі, выкідала іх на паверхню, дзе так няміласэрна пякло й сушыла далікатную іх скурку. О, як-жа тады сьпяшаліся зарыцца ў сырую добрую зямельку, якая была іх роднай хатай.

Адно-ж вялікія, аціжалыя ў рухах, заснулі аднаго разу мацнейшым сном, а нябачная добрая Прырода замяніла іх у нярухомыя лялячкі (Рыс. 2).

Так спалі яны апошнюю зіму, каб на вясну абудзіцца да новага, як-жа цікавага жыцьця!

І не пяклі ўжо іх больш веснавыя праменьні сонца, а грэлі мякка, пяшчотна й заманьвалі ў нязнаны чароўны сьвет.

І пачулі сілу нябывалую ў сабе, выпрасталіся й лопнула скурка калыскі цеснай, сьмешна маленькай, у якой спалі, і пацягнуліся да сонца й паветра вялікія бліскучыя майскія жукі.

Два зь іх хутка пасябравалі з сабой: ён — Бронік Брумкач і яна — спадарычна Пумпа Хрушчанка. Разам і паспрабавалі лётаць, толькі нязручна нейк ішло з пачатку. Трэба было добра напампаваць паветрам усе дыхальныя трубачкі ў целе, каб быць гатовымі да старту (Рыс. 3). Аж задыхалася, упацела бедная цяжкая спадарычня Пумпа, — а ўсё-ж паляцелі.

І не нацешыліся яшчэ, не астылі з захапленьня вольным, прыгожым жыцьцём, аж даведаліся страшную вестку ад мудрага старога Крумкача. Ён расказаў ім, што небясьпечна ў старонцы гэтай, бо людзі тут надта прагаеітыя. Мала таго, што ўсе амаль лясныя жывёліны пазьядалі, але ўжо й за іх, жукоў бяруцца. Паспрабавалі зь іх зупу варыць, як з ракаў, надта смачная й пажыўная мае быц яна, але, на



шчасьце, ня ўсе яе ядуць, толькі найвялікшыя паны. А баворы (звычайныя людзі) кормяць імі сьвіней і курэй, зда-

(Заканьчэньне на 8 балоне)

## Знаемімся між сабой

**Сяньня мы атрымалі пісьмо з далёкай Аўстраліі, краіны, дзе жывуць такія рэдкія жывёліны, як кенгура й дзюбак, але аб гэтых дзівах прыроды раскажу вам іншым разам, а мо' раскажа нехта з нашых маладых чытачоў з Аўстраліі?!**

**Сяньня пазнаёмімся зь некаторымі дзеткамі з Аўстраліі, якія напісалі да нас і прыслалі нам свае фатаграфіі.**



**Аля Яцкевіч цешыцца, што атрымала «Каласкі», якія плылі да яе, на другі канец сьвету, больш, чымсьці месяц. Яна вітае ўсіх беларускіх дзетак, знаёмых і незнаёмых, і жадае больш даведацца аб іх жыцьці з «Каласкоў», у рэдакцыю якіх яны аб сваім жыцьці — яна верыць — напішуць.**



**Два браты: Ўладзік і Янка Раецкія жывуць у заходняй Аўстраліі, яны любяць сваю далёкую Бацькаўшчыну — Беларусь, любяць мову сваю й ахвотна чытаюць сваю газэтку.**



**А малая Эўфрасіньня Яцкевіч абяцае нам, што й яна, хоць нарадзілася у эгзатычнай Аўстраліі, аб якой толькі марыць, ды байкі расказываць маглі беларускія дзеткі на Бацькаўшчыне, ўсё-ж будзе лічыць радзімай сваёй Беларусь і напэўна пабачыць яе сваімі цікавымі вочкамі, бо ўсюды добра, а ў роднай старонцы найлепш — гаворыць яе мама.**

**Цяпер яна вырашае важнае пытаньне: ці яечка вялікоднае можа так сама скакаць, як мячык? Найлепш зрабіць спробу! — пастанаўляе ўканцы.**

# Сьвята Маткі

**Хто быў піанэрам ў сьвяткаваньні** Дня Маткі, невядома.

**Уважаюць, што ідэя нарадзілася** ў скандынаўскіх краінах, а ў 1910 годзе пераняялі яе Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Пазьней, прыблізна ў 1920 годзе, пачалі адзначаць гэты дзень, другую нядзелю месяца травеня, у Сярэдняй Эўропе: У Нямеччыне, Францыі і г. д.

Вы добра ведаеце, дзеткі, што мамы Вашыя поўнасьцю заслугоўваюць на гэты дзень прызнаньня й напэўна вы прынесьлі ў падарунак у гэты дзень сваім мамам шмат радасьці сваімі добрымі паводзінамі й падзякавалі за ўсе турботы, усе рупнасьці і шчырае каханьне, зь якімі што дня клапоцяцца за вас вашыя мамы.

Каб адзначыць гэтае вашае й мамаў вашых сьвята ў ,,Каласкох", зьмяшчаем два наступныя апавяданьні.

**Пётка Гандзя**

## Малы Пятрусь і ягоная мама

Аднаго разу чуў малы Пятрусь, як тата ягоны гутарыў аб палагоджаньні ў бліжэйшым часе некаторых рахункаў. Малому Пятрусю прыйшла ў галаву думка — таксама выставіць рахунак сваёй матцы за дробныя паслугі й даручэньні, якія ён звычайна выконваў.

На другі дзень знайшла мама каля свае талеркі на стале такі рахунак:

**Мама вінна Пятрусю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | За тое, што хадзіў у крамку за запалкамі . . . . . | 20 Фэнігаў |
| 2. | За тое, што аднёс пісьмы ў паштовую скрынку . . . | 10 ,, |
| 3. | За тое, што ён заўсёды быў добрым хлопчыкам . . | 10 ,, |
| 4. | За тое, што прыносіў паштовыя маркі з суседняга кіёску . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20 ,, |
| | Разам . | 20 фэнігаў |

Мама нічога не сказала, а ў вечары знайшоў Пятрусь пры сваей талерачцы 60 фэнігаў.

Надта задаволены зь сябе, паклаў грошы ў кішэню, але заўважыў яшчэ нешта на стале, рахунак мамы:

**Пятрусь вінен сваёй маме:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | За дзесяць спакойных гадоў, якія ён правёў з сваёй мамай | нічога |
| 2. | За ежу, якую ён атрымаў за 10 гадоў . . . . . . . . | нічога |
| 3. | За асаблівую апеку й дагляд падчас хваробы . . . . . | нічога |
| 4. | За тое, што ён заўсёды меў кахаючую, добрую маму . . . | нічога |
| | Разам . | нічога |

Пятрусь прачытаў гэты рахунак і спаважнеў.

Па хвілінцы быў ён каля мамы, яго малое сэрце стукала моцна, схаваў ён свой тварык на яе грудзёх, моцна яе абняў і ўсунуў ціхенька 60 фэнігаў у кішэньку яе фартуха.

# Перапелка

Аднойчы я з бацькам пайшоў на паляваньне. Гэта было перад самым Пятром. Пайшлі мы ў невялікія дубовыя кусьцікі, каля жытняга поля, дзе заўсёды траплялісся перапёлкі. Касіць там было нязручна, таму й трава была высокая. Шмат расло там розных кветак: жураўлінага гарошку, бярозкі, званочкаў, незабудкаў і палявых гвазьдзікоў. Калі я хадзіў туды зь сястрою, то заўсёды зьбіраў цэлы бярэмак, але калі хадзіў з бацькам, дык кветак ня рваў, бо лічыў, што гэта не паважна для паляўнічага.

Раптам Тразор зрабіў стойку; мой бацька крыкнуў: — «піль!» і спад самага носа Тразора выскачыла перапёлка й паляцела. Ляцела яна неяк асабліва: вярцелася, падала на зямлю, як-бы раненая, або як-бы крыло ў яе было надломанае. Тразор з усіх ног кінуўся за ею, падскочыў — і цап! Схваціў перапёлку, прынёс і падаў яе бацьку. Бацька ўзяў яе і палажыў на далоню, жывоцікам уверх. Я падбег. — Што гэта, — пытаю — яна была раненая?

— Не, — адказаў мне бацька. — Яна ня была раненая: але ў яе павінна быць тут гняздо з маленькімі й яна знарок прыкінулася раненаю дзеля таго, каб сабака падумаў, што яе лёгка злавіць.

— А дзеля чаго яна так робіць? — запытаўся я.

— А дзеля таго, каб адвесьці сабаку ад сваіх маленькіх дзетак. Потым яна добра паляцела-б. Толькі на гэты раз яна дрэнна разьлічыла: вельмі прынізілася, дык Тразор яе злавіў.

— Дык яна ня раненая? — зноў спытаўся я.

— Не, але жывой ёй ня быць... Тразор яе, мусіць, моцна сьціснуў зубамі.

Я падсунуўся бліжэй да перапёлкі. Яна нярухома ляжала на далоні бацькі, зьвесіла галоўку й глядзела на мяне з боку сваім бранзовым вочкам. І мне адразу стала шкода яе. Мне паказалася, што яна глядзіць на мяне й думае: «за што я ўміраць павінна? За што? Гэта-ж я свой абавязак выконвала: маленькіх сваіх старалася ўратаваць, адвесьці сабаку далей, — вось папалася. Бедная я! Бедная! Несправядліва гэта. Несправядліва!»

— Тата, — сказаў я — а можа яна не памрэ? — і хацеў пагладзіць перапёлачку па галоўцы.

Але бацька сказаў мне: — Не. Вось паглядзі: у яе зараз ножкі выцягнуцца, яна ўся ўстрапянецца й зачыняцца яе вочы. Так яно й сталася. Як толькі ў яе зачыніліся вочкі, я заплакаў.

— Чаго ты? — спытаў бацька.

— Шкода мне яе! — сказаў я. Яна абавязак свой выконвала, а яе забілі. Гэта несправядліва.

— Яна ашукаць хацела, — сказаў бацька. Але Тразор яе перахітрыў.

— Злы Тразор, — падумаў я, ды й сам бацька паказаўся мне на гэты раз нядобрым. Якое-ж тут ашуканства. Тут любоў да дзяцей, а не ашуканства. Калі ёй прыказана прыкінуцца, каб дзяцей сваіх ратаваць, дык ня трэба было Тразору яе лавіць. —

Бацька хацеў улажыць перапёлку ў палянічую торбу, але я выпрасіў яе ў бацькі, палажыў далікатна ў вабедзьве далоні, пахукаў на яе... ці не прачнецца яна. Аднак яна не парушылася.

— Дарма, брат, — сказаў бацька — яе не ўваскрэсіш. Бачыш, галоўка ў яе цяляпаецца.

Я ціханька прыпадняў яе за дзюбок, але толькі я расчаміў пальцы, галоўка зноў апала.

— Табе ўсё шкода? — спытаў бацька.

— А хто-ж маленькіх дзетак карміць будзе? — у сваю чаргу спытаўся я.

Бацька ўважліва паглядзеў на мяне.

— Не клапаціся, — гаворыць, — бацька-перапёл выкарміць іх.

Але пачакай, здаецца Тразор зноў стойку робіць. Можа гняздо?

Гняздо й ёсьць.

Узапраўды, у траве, каля двух крокаў ад Тразоравай морды, цесна, радочкам ляжалі чатыры птушачкі; прыцісьнуліся адна да другой, выцягнулі шыйкі, і ўсё скоранька дыхаюць, як-бы дрыжаць. А ўжо й пёркамі абрасьлі, пуху на іх няма, толькі хвосьцікі вельмі кароткія.

— Тата! тата! — закрычаў я на ўвесь голас. Адкліч Тразора, а то ён іх таксама заб'е.

Бацька адклікаў Тразора і, трохі адыйшоўшы ў бок, сеў пад кусьцікам, каб пасьнедаць. А я астаўся каля гнязда, не хацеў сьнедаць. Дастаў чыстую насатку, палажыў на яе перапёлку...

— Глядзеце, сіроткі: вось вашая матка. Яна сябе для вас ахвяравала! Птушаняткі паранейшаму скоранька дыхалі

(Заканчэньне на 3 балоне)

**АБРАЗОК — ЗАГАДКА**



**Дзядзька Агароднік хваліцца, што ён вырасьціў новую расьліну.**

**Ці вы верыце яму? Калі не, дык адгадайце, зь якіх дрэваў пазычыў ён лісткі?**

*Замест фэльетону*

# Дзіўныя пратэсты

Сяньня было вялікае ўзварушэньне ў рэдакцыі «Бацькаўшчыны». Галоўны рэдактар мусіў перарваць сваю грыпу, адміністратар — дыпляматычнае недамаганьне, на якое ён часта западае ў выпадках, калі заносіцца на якуюсь буру ў тутэйшай міжнацыянальнай шклянцы вады; кальпартэрка мусіла адклікаць умоўленае спатканьне зь дзяцюком; а беднага фэльетаністага сілай адцягнулі ад ягонай кастальскай крыніцы — чаркі штайнегеру.

Доўгую хвіліну сядзеў гэты арэопаг у глыбокім задумленьні, як-бы прынамсі ў проціўвагу трэйцяй сіле абдумоўваў ідэалёгію чацьвертай моцы. Урэшце рэдактар адазваўся:

— Ну дык радзьце-ж, паважаныя супрацоўнікі.

Яшчэ доўгую хвіліну ўсе маўчалі, толькі фэльетаністы калупаўся ў носе, як быццам-бы там шукаў разьвязкі для цяжкіх праблемаў.

Карыстаючыся з таго, што ўсе маўчаць, я зраджу чытачом тайніцу гэных турботаў.

Вось-жа рэдакцыя атрымала ліст, зьмест якога быў даслоўна такі: «Рэдакцыя перад зьмяшчэньнем карэспандэнцыі, мусіць **маральна** спраўдзіць карэспандэнта ! . .»

Як бачыце, паважаныя чытачы, зьмест запраўды можа скаламуціць навет андалюзыйскага быка на арэне. Бачна, што пісаў яго не абы-які тарэадор.

Рэдкалегія далей маўчала.

Напасьледак фэльетаністы вынуў палец з носа.

— Перадусім, скажэце, хто гэта ёсьць аўтар ліста, сп. Жаўтуха — ці варта сушыць галовы?

— Вось-жа ў гэтым то й справа, што ён лічыць сябе найважнейшай асобай на эміграцыі.*

— Дык чаму я аб ім нічога ня чуў? — упіраўся фэльетаністы.

— Усё-ж такі ён асьвечаны чалавек: абыйшоў некалькі факультэтаў на некалькіх унівэрсытэтах — нясьмела зацеміла кальпартэрка.

— Умгу . . . — буркнуў фэльетаністы.

— Вось дык гішпанская авантура! — гукнуў рэдактар.

Адміністратар анігматычна маўчаў далей.

— Маральна спраўдзіць карэспандэнта! але як гэта зрабіць ? . . — пачаў рэдактар.

Адміністратар адважыўся на сугэстыю:

— А можа каб было ganz klar und zufrieden, прасіць карэспандэнтаў, каб да кажнай карэспандэнцыі далучалі пасьведку зь іхнага Polizeirevier? . .

— Aber можа здарыцца штось zufällig — передражніў фэльетаністы.

— А ці ня было-б пэўней, каб давала пасьведку жонка карэспандэнта? — уткнула свае тры грошы кальпартэрка.

— А як ён нежанаты?

— То можа заручніца . . .

— А калі ён мае іх тры, або й болей, або — што горш — практыкуе пэрвэрсыю? . .

— Прашу аб паважны падыход! — зграміў рэдактар. — Вы ня абойдзецеся бяз парнаграфіі!

Ды я зусім паважна — бароніцца фэльетаністы. Па моему найлепшая была-б пасьведка доктара — рэч зразумелая — мэдыцыны. Нармальнае пасьведчаньне аб маральнасьці. Пажадана, каб доктара-фахоўца: можа гінэкалёга? . .

— Тут ня месца на вашы гадкія жарты — патрыятычна бліснула вачыма кальпартэрка. — Мы тут . . .

— Ведаю, ведаю — перабіў фэльетаністы — чуў сотні разоў. Мы тут ня маем права мець гумару. Калі мусім піць водку, то толькі зь перцам, каб пазнаць усю гарчыню выгнаньня; калі кахацца, то толькі з брыдкой дзяўчынай, каб дасьветчыць усей брыды жыцьця, бо мы мусім цярпець за мільёны . . . ведаю . . .

Але, вяртаючыся да справы — дык калі ня гінэкалёг — можа псыхіятра . . .

Рада, звада, але ўканцы пастаноўлена, што ўсё астанецца па даўнейшаму — і карэспандэнцыя будзе зьмяшчацца без пасьведак аб маральнасьці, бо рэдакцыя верыць у маральную здаровасьць беларусаў на эміграцыі.

Як добра, што рэдакцыя складаецца толькі з чатырох асоб! Калі-б было сямёх — напэўна-б не дагаварыліся . . .

Які-ж з гэнай немаральнай авантуры маральны высна ў?

Вось-жа, відавочна, можам пераканацца, як часам цяжка вырашаць бязглуздыя праблемы. Усім ведама, што гэная рэдакцыя часта вырашае, навет без кансыліяў, цяжкія і скамплікаваныя задачы, а тут над такой пустой драбніцай столькі пацела.

Не на дарма, відаць, аўтар гэнага ліста пабываў на некалькіх факультэтах . . .

*

Толькі запала гэтая гістарычная пастанова, — прыходзіць пісьмо з Аўстраліі.

Новы пратэст. Аказваецца: паўгода таму назад у «Бацькаўшчыне» была зьмешчаная карэспандэнцыя, што з нагоды якойсьці гадавіны ў Мэльбурне сп. Гудок сказаў рэвэляцыйны сказ: «Жыў беларус і будзе жыць!» І вось-жа сяньня сп. Сьвісток пратэстуе, што гэныя гістарычныя словы сказаў не сп. Гудок, але ён — сп. Сьвісток, і то ня ў Мэльбурне, але ў Сыднэі, і не ў гадавіну такую, але ў гэтакую, і ў будучыні жадае, каб Рэдакцыя перад зьмешчаньнем зацемкі, яе спраўдзіла.

Узноў блуднае кола спраўджаньняў: хто? што? калі? каму? чаму? зь якой нагоды? Зацемку — рэч зразумелая — падпісаў «Прысутны» (хаця-б хтось адзін падпісаўся — «Няпрысутны»!). Каго цяпер шукаць: Гудка, Сьвістка, ці ветру ў полі?

Найпрасьцей было-б наняць самалёт і ляцець у Аўстралію, Аргентыну ці іншую частку сьвету — спраўджаць. Ды ўзноў небясьпека. Раз наш рэдактар паляцеў у Бэрлін на кангрэс журналістых, а бальшавікі, даведаўшыся, пачалі на яго аблаву. На шчасьце, беларуская разьведка аказалася лепшай ад бальшавіцкай, бо рэдактар выляцеў на адзін дзень раней, так што бальшавікі назаўтрае расстралялі нявінны францускі самалёт. Дык як-жа пасьля гэтага можна рызыкаваць?

*

А я што, — падкідыш? Я таксама маю прэтэнсыі да «Бацькаўшчыны». Чаму «Бацькаўшчына» — перадавы ворган нашай эміграцыі — не інфармуе нас аб аграмадных падзеях у нашым жыцьці? Некалькі месяцаў таму назад была зьмешчаная зацемка, што адбыўся зьезд беларусаў у Лювэне («Зважай, раўняй на Лювэн!»), што там дыскутавалі, здавалі справаздачы, чыталі рэфэраты, нешта выбіралі і на заключэньне выслалі прывітальную тэлеграму нейкаму спадару Рыжаму.

Божухна — бацюхна! Што сталася? Хто гэта такі? Абляцеў я ўсіх беларусаў, пытаючыся. Ніхто такога ня ведае. Значыцца, нешта не ў парадку.

На колькі мне ведама, быў такі звычай, што падобныя зьезды высылалі прывітаньні перадусім сваім уладам, а калі адбываўся зьезд на чужой тэрыторыі, то й уладам тэй дзяржавы, у якой гэта мела месца.

Праўда, пасьля студэнцкага жарту з падрабленьнем караля ў Лювэне, можа нашым суродзічам ня выпадала слаць прывітаньня бэльгійскаму каралю, прэм'ер мог быць у разьезьдзе, але хіба-ж у Бэльгіі нейкі міністар асьветы ёсьць.

Ці-ж бы нашыя беларусы ў Бэльгіі зрабілі нятакт? Або нешта такое сталася, аб чым «Бацькаўшчына» й не паінфармавала.

А калі так, дык і я пратэстую! . . .

пс

# Некалькі словау адказу сп. Турцову

(Заканчэньне)

Прызнаюся, што мне было вельмі прыемна чытаць артыкул «Больш аб'ектыўнасьці» й шчыра радавацца, што аўтар захаваў у сабе такую глыбокую веру ў маральную й ідэйную вартасьць беларускае моладзі на бацькаўшчыне, якой не змагло зьвіхнуць антынароднае бальшавіцкае выхаваньне. Мне асабліва ды, думаю, і кажнаму беларусу было-б вельмі прыемна, калі-б характарыстыка нашае моладзі, пададзеная сп. Турцовым, адказвала запраўднасьці. На жаль, я, ды й ня толькі я, зьяўляюся іншае думкі. Бо калі-б пагадзіцца з пунктам гледжаньня сп. Турцова, дык гэта абазначала-б, што камуністычнае выхаваньне нашае моладзі ў радох камсамолу й піянэрскіх арганізацыяў не пакідае на ёй ніякага ўплыву, а калі й пакідае, дык уплыў гэты зьяўляецца толькі павярхоўным, вонкавым, які бясьсьледна сьціраецца, калі нашая моладзь непасрэдна стыкаецца зь беларускай нацыянальнай праблемай.

На жаль, асьмельваюся цьвердзіць, што гэтак ня ёсьць, аб чым сьветчыць мноства канкрэтных фактаў, а якія заўважыць мы мусім мець адвагу. Я веру сп. Турцову, што ён стыкнуўся й з такой моладзьдзю, якая, ня гледзячы на прывіваны ей з такой сілай камуністычны сьветапагляд і русыфікацыю, праяўляла ў спрыяльных умовах свой беларускі патрыятызм, мушу аднак зацеміць, што гэтых дадатніх якасьцяў, заўважаных у пэўнай, больш здаровай маральна й адпорнай, частцы моладзі, нельга абагульняць, бо праступнае бальшавіцкае выхаваньне пакідае аднак свой сьлед на моладзі, яно заражае, як найгоршая пошасьць, ейную душу. Адкінуўшы гэты факт, мы мусілі-б тады адкінуць уплыў на маладое пакаленьне ўсякага выхаваньня.

З другога боку з разважаньняў сп. Турцова вынікае, што калі я ня ўспомніў у сваім артыкуле аб шкодным для нас выхаваньні беларускае моладзі ў умовах польскае акупацыі, дык гэтым самым быццам ня бачу ці не хачу бачыць ягонае шкоднасьці. Зусім не! Але гэта якраз ня было тэмай майго артыкулу. Пры гэтым нельга не згадзіцца з адным відавочным фактам. Ня гледзячы на тое, што выхаваньне, якое прышчэплівалася нашай моладзі ў польскіх школах і польскіх арганізацыях, хаця ў сваіх інтэнцыях было таксама антыбеларускім, не магло яно мець такога ўплыву, як выхаваньне бальшавіцкае. Ня гледзячы на ўвесь антыдэмакратызм «дэмакратычнай» Польшчы, там усё-ж такі існавалі некаторыя магчымасьці супрацьдзеяньня, былі, хоць і вельмі абмежаваныя, магчымасьці прыіваньня моладзі, калі ня ў роднай школе й сваей арганізацыі, якіх у вапошнія гады існаваньня Польшчы ня было, дык прынамсі ў сям'і й прыватным шляхам беларускае нацыянальнае ідэалёгіі й маральных якасьцяў. У бальшавіцкай сыстэме гэтых магчымасьцяў ня было бадай зусім.

Канчаючы, хачу адзначыць, што ў нашым нацыянальным інтарэсе мы павінны мець адвагу сьцьвярджаць ня толькі дадатныя й прыемныя для нас зьявішчы ў нашым нацыянальным жыцьці, але таксама й адмоўныя і шкодныя. Толькі гэткім спосабам мы зможам направіць тое зло, якое спрычынілі нам нашыя акупанты.

**Ст. Крушыніч**

# Перапелка

(Заканчэньне)

ўсім целам. Потым падыйшоў я да бацькі.

— Можаш ты падарыць мне гэту перапёлачку? — спытаўся я ў яго.

— Калі ласка. Але што ты хочаш зь ею зрабіць?

— Я хачу пахаваць яе.

— Пахаваць?

— Так, каля яе гнязьдзечка. Дай мне твой нож, я ёй магілку выкапаю.

Бацька зьдзівіўся. — Каб дзеткі да яе на магілку хадзілі? — спытаў ён.

— Не, — адказаў я: — а так . . . мне хачацца. Ёй будзе тут добра ляжаць каля свайго гнязда.

Бацька, не сказаўшы слова, дастаў і падаў мне нож. Я зараз-жа выкапаў ямачку; пацалаваў перапёлачку ў грудзінку, палажыў яе ў ямачку й засыпаў зямлёю. Потым тым-жа нажом адрэзаў на дрэве дзьве галінкі, зьняў зь іх кару, злажыў іх крыжам, перавязаў моцнаю травінкаю і ўваткнуў у магілку. Скора мы з бацькам пайшлі далей. Ідучы, я ўвесь час аглядаўся . . . Крыжык быў беленькі і далёка быў бачны.

Ноччу мне прысьніўся сон: быццам я ў небе й што-ж? На невялікай хмарцы сядзіць мая перапёлачка, але ўся беленькая, як той крыжык. На галоўцы ў яе маленькі залаты вяночак: быццам гэта ёй узнагарода за тое, што яна за сваіх дзетак загінула.

Дзён праз пяць я з бацькам прыйшлі ўзноў на тое самае месца. Я й магілку знайшоў па крыжыку, які хоць і пажаўцеў, але не паваліўся. Заглянуў я ў гнязьдзечка, але яно ўжо было пустое, птушанятак — ні сьледу. Бацька мяне запэўніў, што стары перапёл недзе адвёў сваіх дзетак, і калі ў некалькіх кроках адтуль выляцеў із пад куста стары перапёл, ён у яго ня стрэліў . . . Я і падумаў: — Не, тата добры!

Вось што стала дзіўным: ад таго дня прапала ў мяне ахвота да паляваньня й я ўжо ня думаў аб тым часе, калі тата падорыць мне стрэльбу.

**І. Тургенеў**

# Гісторыя аб двух майскіх жуках

(Заканчэньне)

гадлівейшыя аднак ізноў садзяць іх у гаршчок і вараць. З атрыманага туку прыгатаўляюць каламазь. А ёсьць і такія спэцыялістыя, што вырабляюць зь іх газ сьвяцільны, а зь некатарых частак стрававальнай сыстэмы — добрую чорную хварбу . . .

Як асінавыя лісточкі, дрыжэлі Брумкач Бронік і няшчасная Пумпа, у яе галаве ўсьцяж мітусіўся вобраз, як вараць яе ў гаршку (Рыс. 4).

— Уцікаць! — у вадзін голас прастагналі яны. Добра напампавалі свае цяжкія целы паветрам, каб быць лягчэйшымі, і паляцелі. —

Ляцелі, ляцелі, доўга ці коратка, яны ўжо й самі ня ведалі, зблыталіся, перамяшаліся дні й ночы.

Аж вось, аднаго разу бачаць нейкая дзіўная хатка стаіць з саламянай страхой. Дзьве бярозкі пры ёй. Гэта ўжо напэўне іншая старонка, — вырашылі яны. Тут і спыніліся, бо далей ўжо й не магла ляцець ледзь жывая з высілку Пумпа. І не ашукаліся, тут і пражылі сваё кароткае, а як-жа шчасьлівае, вольнае жыцьцё — тры тыдні, бо другія тры тыдні страцілі на падарожжа.

— Майскія жукі — шкоднікі, — гаворыць настаўнік у школе. Дзеці гэта ведаюць, робяць зь імі розныя жарты, але ўсё-ж ня мучаць іх лішне.

**Цётка Гандзя**

# Пісьмо у Рэдакцыю

Вельмі Паважаны сп. Рэдактар!

Ветліва прашу Вас надрукаваць у газэце «Бацькаўшчына» наступнае выясьненьне:

Быў я ў мінулым годзе запрошаны сп. Р-кім з Гадэрсфіль, праваслаўным беларусам, жанатым з каталічкай ірляндкай, ахрысьціць іхнае дзіця.

Запросіны я ахвотна прыняў і, будучы ў Брадфорд на высьвячэньні Беларускага Дому, дагаварыўся з бацькамі дзіцяці, дзе й калі выканаем абрад хрысту.

Назаўтрае паехаў я ў Гадэрсфільд. Знайшоў бацькоў у прытульным собскім іхным доме. Пытаю, дзе тут найбліжэйшы каталіцкі касьцёл, у якім ахрысьцілі-б дзіця. Ніхто ня ведае, ані сп. Р-кі, ані ягоная жонка (каталічка!). Пытаем у людзей і знаходзім касьцёл. Дагавараемся з тамашнім ангельскім пробашчам, які сустрэў нас вельмі ветліва й услужліва.

— Хто будзе кумам? — пытаю сп. Р-га.

Сп. Р-кі просіць, каб ім быў сп. Р-ц, праваслаўны.

Выясьняю, што выпадала-б дзеля таго, што ў каталіцкім касьцеле хрысьцім, каб прынамсі адзін з кумоў быў каталік, тым больш, што матка дзіцяці каталічка.

Калі ўсе ўступныя фармальнасьці выясьніліся, сп. Р-кі пайшоў за дзіцём, каб прынесьці яго да хрысту. Чакаў я ў касьцеле больш гадзіны часу, тады, калі ўсё было прыгатавана да сьвятога абраду. Зьдзівіліся мы сьвятары (быў із мной цэлы час ангельскі сьвятар), калі сп. Р-кі вярнуўся ўзноў із сваім толькі сябрам. На пытаньне: дзе дзіця?, — ён адказаў: Ужо пазнавата й . . . жонка не жадае хрысьціць, каб ня зьвязвацца зь сьвятарамі! . . . Сястра яе не магла адчапіцца ад сьвятароў і падобна можа здарыцца зь ей . . .

Гэты зьбег фактаў: добры ангельскі сьвятар, які ўсё памог прыгатаваць да хрысту, заботлівы сп. Р-кі, праваслаўны беларус з БССР, няверуючая жонка зь імені каталічка, нявіннае мілае дзіцё, што ўжо хадзіць пачынала, а цяпер ахвяра недаверства маткі — усё гэта выціснула ў мяне сьлязу з вачэй.

Пасьля была доўгая гутарка з спадаром Р-кім, і я помню ягоныя словы, сказаныя на разьвітаньне: — Айцец, як-бы ня было, але дзіця будзе ахрышчана!

І ўзапраўды, я вельмі цешуся, што бацька стрымаў сваё слова й ахрысьціў дзіця.

Дзіўлюся толькі, якім чынам з «абурэньнем» могуць паведамляць рэдакцыю «Бацькаўшчыны» (№ 18 (97), артыкул Язэпа Каранеўскага «За згоду рэлігійную») з Ангельшчыны аб тым, што «адзін беларускі каталіцкі сьвятар адмовіўся ахрысьціць паводля каталіцкага абраду дзіця мяшанай сям'і толькі таму, што кумы былі праваслаўныя.».

Ня будзем тут выясьняць, якія, дзе й калі патрэбныя для хрысту кумы. Гэтыя справы лепш няхай сьвецкія людзі пакінуць нам, сьвятаром. Усім нам добра ведама, што распараджэньні й дзяржаўныя дэкрэты аўстра-вугорскіх імпэратараў аб тым, калі звaніць у касьцёлах і як званіць, ня прынесьлі карысьці ані той імпэрыі, ані касьцёлам.

Хачу толькі зьвярнуць увагу на перакручваньне самых фактаў і лёгкадумнае падаваньне іх у прэсе разам зь лягічнымі, але хвальшывымі вывадамі, якія датычаць куды важнейшых справаў, чымсьці самыя факты.

З пашанай

**а. Ч. Сіповіч**

**Рэктар Беларускай Каталіцкай Місыі ў Ангельшчыне**

*

**Лёндан, 10 травеня 1952.**

**Ад Рэдакцыі:** Рэдакцыя ветліва перапрашае а. др. Ч. Сіповіча за некаторыя інфармацыі, пададзеныя ў вартыкуле «За згоду рэлігійную», якіх, як і ўсякіх іншых інфармацыяў, што прыходзяць з-за межаў Нямеччыны, няма магчымасьці заўсёды спраўдзіць.

# Студэнцкі Ансамбль у Парыжы

Дня 26 красавіка сёлета наведала Парыж група беларускіх студэнтаў зь Лювэну, каб даць у ім свой першы канцэрт беларускае песьні й танцаў. З хвалюючым сэрцам ехалі яны ў Парыж, каб пацешыць песьняй ня толькі беларусаў, але й іх прыяцеляў — французаў ды слухачоў іншых нацыянальнасьцяў, якія зацікавіліся канцэртам і прыбылі на вечар. Заля, хоць і ня поўная з увагі на недастатковую прапаганду, а таксама з увагі на тое, што канцэрт пастаноўлена было даць коратка перад выступам, гучэла ад воплескаў і бісаў.

Спачатку харыстыя, анясьмеленыя новым асяродзьдзем, пяялі трохі баязьліва, няпэўна, але паступова, падбадзёраныя воплескамі, галасы іх мацнелі й пад канец з дваццаці маладых мужчынскіх грудзей так магутна гучэлі песьні, што здавалася разыйдуцца сьцены залі. Але ня толькі магутна гучэлі, а й перадавалі слухачом глыбокую пачуцьцёвасьць і пяшчотны лірызм беларускае песьні.

На зьмену хору прыходзілі салёвыя выступленьні сп. Сенькоўскага й сп. Цьвіркі ды прыгожыя танцы «Лявоніха», «Крыжачок» і «Мяцеліца». Да гэтага, прыгожая нацыянальная вопратка таксама чаравала гледачоў сваёю прастатою й красою.

Таму ўсе прысутныя, хоць бальшыня іх не разумела словаў песьняў, з захапленьнем слухалі мэлёдыйных гукаў і вынесьлі з канцэрту вялікае ўражаньне. Некаторыя зь іх гаварылі: «Калі-б я раней аб канцэрце ведаў, я запрасіў-бы на яго ўсіх маіх прыяцеляў».

Назаўтрае, у нядзелю 27 красавіка, яшчэ раз беларуская калёнія ў Парыжы мела нагоду пачуць нашых харыстых у беларускай капліцы ў Парыжы, якія пяялі да Божай Службы, адпраўлянай айцом Львом. Апрача беларусаў, у капліцу хор прыцягнуў звонку шмат французаў, якія жадалі паслухаць рэлігійных песьняў усходняга абраду. Гэтага-ж дня, пасьля скромнага абеду, харыстыя, карыстаючы з прыгожага вясеньняга надвор'я, разышліся па горадзе, каб зьведаць сталіцу.

Але ў панядзелак трэба было вяртацца ў Лювэн, да працы, бо эгзамены на нсее. З жалем пакідалі яны Парыж, а нам беларусам з Парыжа сумна было зь імі разьвітвацца. Усе яны паўтаралі: «Мы яшчэ да вас вернемся!»

Цягнік хутка адыходзіў на поўнач, а ў вокнах усё яшчэ павявалі белыя студэнцкія шапкі.

**М. Смага**

### ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВІКТОРЫІ

Дня 6. 4. 52 адбыўся агульны сход сяброў Беларускага Клюбу ў Мэльбурне. Справаздача ўступаючага ўраду й жывая дыскусыя над ёю выказалі, што ўрад Беларускага Клюбу, паміма шматлікіх перашкодаў з боку часткі сяброў, выканаў шмат пазытыўнай працы й годна рэпрэзэнтаваў імя беларуса ў Аўстраліі.

Пасьля ўдзяленьня ўступаючай управе абсалюторыюм, пастановай значнай бальшыні ўдзельнікаў сходу Беларускі Клюб у Мэльбурне пераймянаваўся ў Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі (ад назвы штату, у якім знаходзіцца Мэльбурн) з правам прыйманьня сяброў зь іншых частак Аўстраліі, дзе няма беларускіх арганізацыяў.

Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі азначыла сваё палітычнае становішча, вызнала Раду й Урад БНР за найвышэйшую рэпрэзэнтацыю беларускага народу.

Адрас ЗБВ:

Association of Byelorussians in Victoria
42, Clifton St., Northcote, Victoria

—O—

### Удзел беларусаў у Міжнародным Фэстывалі у Вініпэгу

21 і 22 красавіка сёлета ў Вініпэгу (Канада) быў стараньнем мясцовай IMKI зарганізаваны другі Народны Фэстываль, на якім прэзэнтавала сваё народнае мастацтва 18 нацыянальнасьцяў. Беларусы, падобна як і ў першым Фэстывалю, які адбыўся ў мінулым годзе, занялі адно зь першых месцаў. Беларускую народную песьню зь нязвычайна мастацкім выкананьнем паказаў прысутным 18-цілетні, але ўжо шырака ведамы, беларускі кантр-тэнар Міхал Радчанка, е беларускі народны танец — сп. Мікола Сыльвановіч — старшыня Гуртка Мастацкай Самадзейнасьці Беларускай Народнай Песьні й Танцу ў Вініпэгу.

### АБВЕСТКА

**Жаноцкае Згуртаваньне ў Нямеччыне мае намер ужо ад чэрвеня сёлета рэдагаваць пры «Бацькаўшчыне» сваю «Жаноцкую Старонку».**

**Просьба да ўсіх Жаноцкіх Згуртаваньняў прыслаць інфармацыі аб сваей працы ў паасобных краінах, па магчымасьці зь ілюстрацыямі, а таксама й артыкулы на тэмы, што датычаць жаноцкага жыцьця.**

**Матарыялы просім прысылаць на адрас «Бацькаўшчыны».**

**Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Нямеччыне**